Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 7 (4705) 15 лютага 2013 г.


Побач з Купалам, Коласам і Багдановічам... Яго месца на Парнасе
4


Адметнасці літпрацэсу XXI ст. Гутарка за «круглым сталом»
8


Фёдар Яcтраб: "Да смерці трэба рыхтавацца з 20 гадоў..."
13

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка адзначыў дзяржаўнымі ўзнагародамі заслужаных людзей краіны. Ордэнам Францыска Скарыны ўганараваны генеральны дырэктар Гомельскага дзяржаўнага цырка Якаў Лабовіч.

✔ Загадам Кіраўніка дзяржавы ганаровыя званні заслужаных артыстаў Беларусі прысвоены вядучым майстрам сцэны Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Антону Краўчанку, Ірыне і Алегу Яромкіным і Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя В. І. Дуніна-Марцінкевіча (г. Бабруйск) Аляксандру Парфяновічу. Ганаровае званне «Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь» прысвоена генеральнаму дырэктару Нацыянальнага мастацкага музея Уладзіміру Пракапцову, а «Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь» — начальніку аддзела культуры Ельскага райвыканкама Валерыю Гейхману.

✔ Белгазпрамбанк мае намер працягваць работу па вяртанні культурнай спадчыны Беларусі на гістарычную радзіму. З апошніх рэалізаваных праектаў банка — калекцыя мастакоў Парыжскай школы жывапісу, якая цяпер экспануецца ў Гомелі.

✔ У спіс з 23 самых прыгожых замкаў Еўропы, паводле версіі брытанскага часопіса *Female First*, уваходзіць і Мірскі замак. Згадваецца ён побач з такімі вядомымі, як Замак Дракулы, Эдынбургскі, Тракайскі палацы ды іншыя.

✔ У Віцебску ў цэнтры горада ствараецца музейны квартал. Там размесцяцца музей гісторыі і архітэктуры, музей гісторыі Віцебскага народнага мастацкага вучылішча, музей Ю. Пэна, а таксама арт-цэнтр Марка Шагала.

✔ Сёлета плануецца правесці добраўпарадкаванне паркаў Мірскага і Нясвіжскага палацаў. Работы рэгламентуюцца праграмамі «Культура Беларусі» і «Замкі Беларусі», разлічанымі да 2018 года.

✔ Гродзенскі абласны тэатр лялек адкрыўся пасля рэканструкцыі. Гледачам прапанавалі спектакль «Пікавая дама», які летась атрымаў галоўную ўзнагароду II Нацыянальнай тэатральнай прэміі.

✔ Прэм'ера першага беларускага поўнаметражнага анімацыйнага фільма «Прыгоды Несцеркі» рэжысёра Ігара Волчака адбудзецца ў сакавіку бягучага года.

✔ Камунальнае выдавецкае унітарнае прадпрыемства «Магілёўскія ведамасці» хутка з'явіцца ў вобласці. Кірунак працы — падрыхтоўка газет, выдавецкая дзейнасць, выпуск інфармацыйнай стужкі і арганізацыя работы сучаснага інтэрнэт-партала.

✔ На гэтым тыдні ў Мінску ўпершыню праходзіць форум пластычных і танцавальных тэатраў Беларусі «ПлаSтформа». Удзел у ім бяруць дзевяць груп з Мінска, Гродна і Гомеля.

Падрыхтавала
Таццяна МАСТОЎСКАЯ

## 18 лютага — 120 гадоў з дня нараджэння Максіма Гарэцкага


*Фота прадастаўлена Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры*

# Памяці творцы

**Віктар ПАДАШЭЎКА**

*Веліч мар у новае*
*дайшла стагоддзе.*
*Як нам жыць? —*
*адвечнае пытанне.*
*Наш Максім, будзь ласкаў:*
*пры народзе*
*Прызначай сваім сынам*
*спатканне.*

*Бы з крыніцы п'ю — чытаю творы,*
*Кожную не праміну старонку.*
*Прад вачыма летапісу ўзоры,*
*Дзе душа з душой вядуць гамонку.*

*Зведаў здзекі, допыты і краты,*
*Вытрымаў не простую*
*муштроўку,*
*Бо, калі пайшоў*
*з бацькоўскай хаты,*
*У руках трымаў пяро-вінтоўку.*

*Веру я, што сінявокай кветкай*
*Будзеш красавац у родным полі.*
*І пацвердзіць гэта першы сведка —*
*Твой народ, нашчадак лепшай долі.*

# Поле нашай духоўнасці

Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў падсумаваў вынікі працы галіны ў 2012 годзе. Калегія Міністэрства культуры адбылася на гэтым тыдні ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. У фае ўдзельнікі маглі азнаёміцца з выстаўкай, на якой дэманстраваліся новыя друкаваныя выданні і электронныя праекты скарбніцы, у тым ліку па аднаўленні Радзівіліяны, Сапегіяны і інш. Акцэнтуем некаторыя думкі.

**Ірына ТУЛУПАВА**

*Пра экспарт — імпарт паслуг.* На гэты год запланавана павелічэнне экспарту нашай культуры на 9 працэнтаў. Пры гэтым робіцца акцэнт на станоўчае сальда па знешнім гандлі і паслугах культуры. Найбольшы аб'ём экспарту паслуг аказваюць Нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм» і ўстановы адукацыі. Імпарту — тэатральна-відовішчныя арганізацыі і Дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

*Пра ахову гісторыка-культурнай спадчыны і праграму «Замкі Беларусі».* Летась у межах праграмы праходзілі работы на 19 аб'ектах. Зрэшты, у Дзяржаўным спісе гісторыка-культурных каштоўнасцей цяпер — 5 555 аб'ектаў, у рэгіёнах толькі на 76 працэнтах з іх усталяваныя ахоўныя дошкі.

*Пра сярэднюю заработную плату працаўнікоў культуры.* За студзень — снежань 2012 г. яна склала 2514,7 тыс. рублёў. Гэта 76 працэнтаў ад сярэдняй па краіне. Цяпер распрацоўваецца праект Указа па аплаце працы работнікаў музеяў, тэатральна-відовішчных арганізацый і прафесійных калектываў мастацкай творчасці, якім прысвоены статус «нацыянальны».

*Пра чытанне і бібліятэчную справу.* Летась 90-гадовы юбілей адзначыла Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Быў арганізаваны Міжнародны кангрэс «Нацыянальная бібліятэка як феномен культуры».

Дзейнічае нарматыў па выдзяленні на камплектаванне фондаў бібліятэк не менш як 15 працэнтаў ад сумы фінансавання, якая выдаткоўваецца на іх утрыманне. У 2012 годзе нарматыў выкананы на 16 працэнтаў. Не выконваецца пакуль у поўным аб'ёме паказчык абнаўлення фондаў бібліятэк (на 5 працэнтаў у год).

Цяпер у краіне праходзіць эксперымент па інтэграцыі ў сельскіх населеных пунктах публічных і школьных бібліятэк. У выніку ў 2012 годзе сетка публічных бібліятэк Міністэрства культуры скарацілася на 130 адзінак. Як вынікае з выступлення начальніка ўпраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама Аляксандра Вярсоцкага, толькі на Гродзеншчыне стала менш на 58 бібліятэк. Дырэктар Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі Валянціна Дуброва дадала: на замену стацыянарным у вёскі прыязджаюць «аўтабібліятэкі».

# Каб любіць Беларусь!

Такі слоган тэлеканала «Беларусь 3», які днямі пачаў тэставае вяшчанне ў складзе холдынга Белтэлерадыёкампаніі.

Новы тэлеканал мае на мэце забяспечваць асвятленне дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкі ў галіне культуры, а таксама спрыяць фарміраванню самаідэнтычнасці беларускага грамадства пры дапамозе сучасных медыйных рэсурсаў.

Аўдыторыя тэлеканала, паводле меркавання яго стваральнікаў, незалежна ад узросту мусіць адрозніваўца высокай адукаванасцю і выразнай скіраванасцю на нацыянальнае культурнае асяроддзе. На першым этапе фарміравання сеткі вяшчання будуць максімальна выкарыстоўвацца фондавыя матэрыялы, далей плануецца стварэнне ўласных праектаў, супрацоўніцтва з установамі Міністэрства культуры і закупка правоў у замежных вытворцаў.

«Беларусь 3» — гэта магчымасць далучэння шырокага кола грамадства да культурнага жыцця краіны і папулярызацыі нацыянальных каштоўнасцей, знаёмства з дасягненнямі сусветнай культуры і прадстаўленне беларускай культурнай спадчыны ў свеце.

У сувязі з тым, што канал стараецца падчас пераходу на лічбавае вяшчанне, для шырокага ахопу гледачоў выкарыстоўваецца алгарытм эфектыўнага пранікнення ва ўсе лічбавыя і кабельныя сістэмы распаўсюджвання тэлевізійнага сігнала: шляхам уваходжання канала ў склад першага мультыплексу, пры дапамозе кабельных сетак, праз інтэрнэт, сістэму IP-тэлебачання і апаратараў мабільнай сувязі.

Аснову эфіра «Беларусь 3» у будзённыя дні складае тэматычная падборка фільмаў «Мая Беларусь», якая прапануе ўвазе найлепшыя ўзоры кіна- і тэледакументалістыкі. Праграмы канала аб'ядноўваюцца ў 12 рубрык: «Тэатр», «Кіно», «Літаратура», «Музыка», «Асобы», «Гісторыя», «Жывапіс», «Прырода», «Традыцыі», «Архітэктура», «Навука», «Музеі». У праграме — і перадача для самых маленькіх «Калыханка». Больш як палову вяшчання будзе складаць менавіта сацыякультурны блок, скіраваны на асвятленне гістарычных падзей, прапаганду айчыннай культуры, выхаванне патрыятызму і распаведа пра беларускія славутасці.

Увогуле, паводле галоўнага дырэктара «Беларусь 3» Віктара Маючага, «гэта канал не толькі пра культуру, навуку, літаратуру і г. д. — гэта канал для ўсіх беларусаў».

У гутарцы з карэспандэнтам «ЛіМа» намеснік галоўнага дырэктара Сяргей Макарэй адзначыў, што літаратура на канале «Беларусь 3» будзе прадстаўлена не толькі ў межах пэўнай рубрыкі, але і ў выглядзе міжпраграмных уставак, дзе будуць цытавацца творы беларускіх класікаў. Акрамя таго, распрацоўваецца арыгінальны праект, у якім вядучы будзе сустракацца з вядомымі літаратарамі, мовазнаўцамі, літаратурнымі крытыкамі і разважаць «пра мову» ў самым шырокім сэнсе. На пытанне «каго будзеце прадстаўляць у эфіры?» Сяргей Віктаравіч шчыра адказаў: «Таго, каго і вы. Я даўні падпісчык «ЛіМа». А вы друкуеце творцаў розных пакаленняў і кірункаў, і прозу, і паэзію. Мы працуем на адным полі, у нас проста розныя сродкі прадстаўлення інфармацыі. Так што ў айчыннага пісьменніка з'явіцца яшчэ адна творчая пляцоўка, дзе яго можна будзе не толькі прачытаць, але і пабачыць».

**Кіра МУРАЎСКАЯ**

*Літсувязі*

# Сто паэтаў Паднябеснай

На ХХ Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы адбылася прэзентацыя кнігі «Пад крыламі Дракона. Сто паэтаў Кітая». Літаратурна-мастацкае выданне нядаўна пабачыла свет у РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» тыражом 2500 экзэмпляраў.

**Дар'я ШОЦІК**

Выпуск ажыццёўлены па заказе і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Беларусі і Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Укладанне і пераклад на беларускую мову вершаў ажыццявіў паэт, галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Мікола Мятліцкі.

— Для многіх будзе адкрыццём, што пісьмовая паэзія ў Кітаі існуе ўжо 24 стагоддзі! — упэўнены Мікалай Міхайлавіч. — Лепшыя паэты Паднябеснай, яшчэ калі на нашай тэрыторыі не з'явіліся славянскія плямёны, думалі пра неба над галавой, кветку ў полі, краіну, якую трэба берагчы і шанаваць. Кітай — дзяржава, якая думае пра памнажэнне сваіх каштоўнасцей.

Аташэ па пытаннях культуры пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Беларусі спадарыня Ван Жуй, якая адна з першых узяла ў рукі выданне, адзначыла: «Пераклад на беларускую мову зроблены на вельмі высокім узроўні, а адабраныя вершы заслугоўваюць увагі чытацкай аўдыторыі. Гэтая кніга дапаможа больш даведацца пра кітайскую культуру і цывілізацыю, бо змяшчае вершы лепшых старажытных ды сучасных паэтаў».

Зборнік «Пад крыламі Дракона. Сто паэтаў Кітая» — важны крок на шляху культурнага абмену паміж краінамі.

Фота Кастуся Дробава




# Пад зоркай Рудакі

Фота Кастуся Дробава



У Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі на імпрэзе, прысвечанай творчасці таджыкскага паэта Рудакі, яго вершы гучалі па-беларуску.

Абу Абдалах Рудакі з'яўляецца заснавальнікам персідскай літаратуры. Нельга не прыгадаць яго вядомыя радкі: «Няма у свеце радасці мацней, чым сузіранне блізкіх і сяброў».

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Таджыкістан у Беларусі Казідаўлат Каімдодаў патлумачыў, чаму вершаваныя творы слыннага майстра слова і сёння маюць вялікую вагу ў сусветнай літаратуры:

— Паэзія Абу Рудакі з'яўляецца яшчэ адным крокам да ўзаемнага культурнага ўзбагачэння і духоўнага збліжэння беларускага і таджыкскага народаў. Яго творы занялі самыя высокія пазіцыі на небасхіле таджыкскай гісторыі, культуры, таму што ў іх усхваляецца любоў да Радзімы, сяброўства, свабода, гонар і справядлівасць. Прыемна, што ўжо больш як адзінаццаць стагоддзяў выдатныя вершы паэта не губляюць свайго значэння. Дарэчы, паводле рашэння ЮНЕСКА, у 2008-м шырока святкавалася 1150-годдзе Рудакі.

Старшыня таварыства «Беларусь — Таджыкістан», галоўны дырэктар—галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч прадставіў аўдыторыі кнігу «Пад зоркаю Рудакі», якая аб'ядноўвае творчасць 15 сучасных таджыкскіх паэтаў.

Пісьменнік і публіцыст з Таджыкістана Ато Хамдам выказаў упэўненасць, што пашырэнне беларуска-таджыкскіх сувязей дапаможа знайсці новыя шляхі развіцця літаратуры.

**Дар'я БЕКІШ**

# Казкі XXI стагоддзя

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» распачынае ў гэтым годзе новую серыю «Нашым дзеткам», якая папоўніць скарбонку любімых дзіцячых кніг.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Летась «Мастацкая літаратура» выдала 82 найменні кніг. Амаль палова з іх — дзіцячыя. І ніводная надоўга не затрымлівалася на паліцах кнігарняў. Большасць друкуецца ў адмысловых выдавецкіх серыях. Першая — «Беларуская аўтарская казка», заснаваная ў 2006 годзе.

— Народныя казкі выдаваліся шмат і маюцца ў кожным доме. А вось аўтарскай казкі нам заўжды не хапала, — тлумачыць галоўны рэдактар выдавецтва Віктар Шніп. — Вядомыя дзіцячыя творы нашых класікаў — Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча. А сучасныя пісьменнікі?.. Таму выражылі звярнуць на іх асаблівую ўвагу. У гэтай серыі за 2012 год выйшлі, напрыклад, зборнік казак «Залаты талер», кнігі «Азбукоўнік і лічылка», «Марцін і кацяня», «Я — чалавек».

Адразу звяртае на сябе ўвагу кніга Ірыны Клімковіч «Калі адчыняюцца нябёсы». Пісьменніца ўжо не першы год ездзіць разам з навукоўцамі ў экспедыцыі — збірае фальклор. Назапашаныя веды спадарыня Ірына выклала ў выглядзе эсэ пра беларускую міфалогію, якія і склалі змест кнігі. Акрамя ўжо класічных апаведаў пра міфалагічных істот выданне змяшчае звесткі пра язычніцкія святыні: крыніцы, камяні і інш. Дагэтуль сустракаюцца валуны, на якіх людзі пакідаюць манеткі, цукеркі ды іншыя «ахвяраванні». Расказвае аўтар і пра паходжанне герояў фальклору. Напрыклад, Баба Яга «родам» ажно з матрыярхату, калі людзі верылі ў падобнае боства ў жаночым абліччы.

Другая серыя дзіцячых кніг — «Казкі XXI стагоддзя» — таксама прадстаўленая аўтарскімі творамі, аднак мае сваю адметнасць: у выданні змяшчаюцца звесткі як пра пісьменніка, так і пра мастака, які кнігу праілюстраваў. Усяго ў гэтай серыі выйшла больш як 10 найменняў кніг.

Упэўненыя: калі і надалей будуць выходзіць цікавыя кнігі на беларускай мове для дзяцей, калі з беларускай кнігай будуць расці новыя пакаленні, мы сапраўды можам спадзявацца на добрую будучыню.

## Лепшая кнігарня

Па выніках працы за 2012 год Міністэрства інфармацыі Беларусі ўзнагародзіла 7 кнігарняў дыпломамі «Лепшая кнігарня ў Год кнігі». За значны ўклад у сістэму кнігараспаўсюджання, актыўную працу па папулярызацыі беларускай кнігі, а таксама падтрымцы чытання ўзнагароджаны філіял Белкнігі «Цэнтральная кнігарня» (Мінск), «Кніжны свет» (Жодзіна), «Дружба» (Брэст), «Глобус» (Віцебск), «Светач» (Гродна), кнігарня Магілёўсаюздруку «Мір» і «Прэзентацыя» выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі» (Мінск).

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць у сувязі са смерцю паэта Івана ПЕХЦЕРАВА і выказваюць шчырае спачуванне яго родным і блізкім.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць глыбокія спачуванні пісьменніку Аляксандру Аляксандравічу Суславу у сувязі з напаткаўшым горам — смерцю ЖОНКІ.

*Літабсягі*

# Род. Гісторыя. Радзіма

Творчая сустрэча з пісьменнікам і гісторыкам Анатолем Статкевічам-Чабаганавым на сёлетняй кніжнай выстаўцы-кірмашы прайшла пад гучнай назвай «Гісторыя сям'і, роду — гісторыя Радзімы: генеалагічны пошук як аснова летапіснага партрэта Айчыны». І распавёў аўтар, як зацікавіўся гісторыяй старажытных беларускіх родаў ды не толькі.


*Фота Кастуся Дробава*

*Выступае Анатоль Статкевіч-Чабаганаў.*

**Дар'я ШОЦІК**

Сустрэча пачалася з пастаноўкі Камернага духоўнага тэатра Міжнароднага дабрачыннага фонду «Сям'я — Адзінства — Айчына» на тэму беларускіх радаводаў. Анатоль Васільевіч акрэсліў галоўную ідэю сваёй шматгадовай працы — вяртанне ў памяць беларусаў ведаў пра нашых продкаў.

Дырэктар — галоўны рэдактар «Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч заўважыў, што праект «Я — сын Ваш» вядомы ўжо не толькі ў Беларусі, Расіі, але і далёка за межамі. Бо нашчадкі беларускай шляхты жывуць і ў Амерыцы, і ў Аўстраліі, таму ім цікавы гэты праект як гістарычная скарбніца, якая распавядае пра іх продкаў.

Анатоль Статкевіч-Чабаганаў прызнаўся: «Пачалося ўсё яшчэ ў дзяцінстве, калі шмат цікавага чуў ад сваякоў. Вось вёска Засмужжа, што ў Любанскім раёне, дзе я нарадзіўся, была маёнткам майго дзеда Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча. Потым — рэвалюцыя, дзед мой быў расстраляны 6 сакавіка 1930 года ў Слуцкім выпраўдоме (так раней называлі турмы), а сям'ю выслалі ў Комі-Пярмяцкую акругу. І, вядома ж, гэтыя аповеды ўзрушвалі мяне і ў той час. Таму пачаў больш падрабязна цікавіцца гісторыяй свайго роду, збіраць фотаздымкі, паштоўкі, лісты...»

Складаючы радаводнае дрэва, пісьменнік суаднесіў яго з падзеямі тых часоў. Менавіта таму Анатоль Васільевіч перакананы, што можна напісаць гісторыю Айчыны не палітызаваную, а ўбачыўшы яе вачыма продкаў. Падзяліўся А. Статкевіч-Чабаганаў і сваімі планамі: «Разумею, што адзін гэта ўсё я не адолею. Таму і ўзнікла ідэя стварыць спецыяльны фонд, каб праца па вывучэнні беларускіх родаў працягвалася».

*Арт-лінія*


*Фота Кастуся Дробава*

# Не адразу бывае прыгожа

Юбілейная выстаўка жывапісу і графікі «Мастак і час» народнага мастака, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, лаўрэата шматлікіх прэмій Леаніда Шчамялёва адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

**Дзіяна КАРОЛЬ**

Павіншаваць мэтра з 90-гадовым юбілеем завіталі блізкія, вучні, калегі, дыпламаты, прыхільнікі таленту. Віншаванні ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі зачытаў міністр культуры Барыс Святлоў.

— Можна пісаць на пэўныя тэмы, можна выказваць адносіны да таго, што адбываецца навокал. Галоўнае — не баяцца працы, атрымліваць асалоду ад сваёй справы — толькі тады штосьці атрымаецца, — упэўнены юбіляр. — Я прыходжу ў майстэрню і спачатку нават не думаю пра натхненне. Пачынаю працаваць — і яно прыходзіць. А каб адразу ўсё прыгожа пачыналася — такога не бывае.

Чалавек незвычайнага творчага лёсу, Леанід Шчамялёў зрабіў вялікі ўнёсак у скарбніцу нацыянальнай выяўленчай культуры. Удзельнік Другой сусветнай вайны, ён каля сотні работ прысвяціў гэтай тэме, аднак у цэнтры ўвагі — не батальныя сцэны, а чалавек на вайне. Мастаку ўласціва асаблівае, «шчамялёўскае» захапленне — лёгкі, імклівы жывапіс, метад «а-ля прыма». Яго карціны часам нагадваюць сямейны альбом, бо на іх — дзеці, унукі, праўнукі, жонка Святлана, якая натхняе яго ўжо амаль палову стагоддзя. Не здраджвае мастак як былы кавалерыст і ўдзельнік бітвы на Курскай дузе і ўлюбёным персанажам — коням, якія ўжо колькі дзесяцігоддзяў «імчацца» па яго палотнах.

З настаўнікам Шчамялёву пашанцавала: вучыўся ў Віталя Цвіркі (дарэчы, атрымаў ад яго ў спадчыну майстэрню, куды вось ужо колькі год ходзіць, як на працу, кожны дзень). З 1958 года пачаў удзельнічаць у шматлікіх выстаўках, хаця прызнанне яго як мастака прыйшло не адразу: у пяцідзясятыя, у час панавання сацыялізму, дыпломная работа «Вяселле» выпускніка Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута не спадабалася кіраўніцтву, бо трэба было пісаць пра гераічнае, а Шчамялёў паказваў мірнае жыццё.

Пэўны час мастак выкладаў у Мінскім мастацкім вучылішчы і Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчым мастацтве, займаў высокія пасады ў Саюзе мастакоў БССР. Л. Шчамялёў — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі і прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва, кавалер ордэна Францыска Скарыны. З 2003 года ў Мінску працуе гарадская карцінная галерэя яго твораў. Работы мастака можна пабачыць у Расіі, ЗША, Ізраілі, Канадзе, краінах Еўропы. На выстаўцы «Мастак і час» прадстаўлена каля 150 твораў жывапісу і графікі Леаніда Шчамялёва, некаторыя работы майстар выстаўляе ўпершыню.

*Повязі*

# Шчасце археолагаў

Адна з найбольш цікавых прэзентацый, што адбылася падчас XX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, — прэзентацыя кнігі «Пампеі», якую выдаў UTET — Саюз паліграфістаў і выдаўцоў Турына. Гэтае выдавецтва не толькі адно з самых прэстыжных у Італіі і Еўропе, але і найстарэйшае — заснавана ў 1791 годзе.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Прэзентаваў кнігу Лівіё Дзэрбіні, выкладчык універсітэтаў Ферары і Сарбоны, аўтар шматлікіх кніг і навуковых артыкулаў, спецыяліст па рымскай гісторыі, кіраўнік археалагічных раскопак у Грузіі. На думку прафесара, вельмі важна не толькі займацца навукай, але і распаўсюджваць веды. «Але часта навукоўцы пішуць занадта складана, так, што мала хто здольны зразумець іх працы. У выніку атрымліваюцца кнігі, дзе мала тэксту і процьма каментарыяў. Чытаць іх немагчыма». Адзін са сродкаў папулярызацыі ведаў — выкарыстанне розных відаў інфармацыі, у першую чаргу — ілюстрацый. Што і робіць прафесар Дзэрбіні. Кніга «Пампеі» выдатна ілюстраваная дзякуючы працы выбітнага італьянскага фатографа Эральда дэ Лука. Тэксты ж напісаны самім прафесарам.

«Пампеі» — не проста чарговае выданне на кніжным рынку, але твор мастацтва, перадусім, дзякуючы высокаму ўзроўню паліграфіі і сапраўды арыгінальнаму дызайну. Выйшлі «Пампеі» ў межах праекта «Культу-



ра», які распачаўся ў Італіі два гады таму (раней з'явілася выданне, прысвечанае Джузепе Вердзі).

Пра трагедыю антычных Пампеяў ведае кожны. 24 жніўня 79 года раз'юшаны Везувій абрынуў на горад лаву і попел. І калі сёння мы шмат ведаем пра побыт, жыццё і культуру старажытных рымлян, то зболь-шага дзякуючы таму, што адбылося ў той дзень. Закансерваваныя ў попеле, да нас дайшлі ў больш-менш некранутым выглядзе 800 з нечым будынкаў. Захаваліся мазаікі, фрэскі і статуі. Праз амаль дзве тысячы гадоў мы можам прайсці па Віа дэль Абанданца ды іншых вуліцах, пашпацыраваць па Форуме, пасядзець у Амфітэатры на 20 тысяч месцаў — якія, дарэчы, цалкам захаваўся.

— На жаль, трагедыя Пампеяў — гэта вялікае шчасце для археолагаў, — рэзюмаваў прафесар.

Разам з кнігай быў прэзентаваны дакументальны фільм «Пампеі. Бачныя і нябачныя», зняты Франчэска Манфрэдзі, які, насамрэч, — усё той жа Лівіё Дзэрбіні. Фільм распавядае пра найбуйнейшы ў Італіі і нават Еўропе музей пад адкрытым небам — уласна Пампеі, а таксама пра яго філіял — Нацыянальны археалагічны музей у Неапалі. Там захоўваюцца найвялікшыя шэдэўры антычнасці. Напрыклад, мазаічнае пано, прысвечанае перамозе Аляксандра Македонскага над Дарыем III у Ісе, якое складаецца з паўтара мільёнаў каляровых шкельцаў. Альбо творы легендарнага грэчаскага майстра Менандра. Дарэчы, усе падобныя экспанаты ў Луўры таксама паходзяць з «пампейскай зоны». Калекцыя неапальскага музея складае 1500 прадметаў, з якіх выстаўлена толькі 300.

Менавіта пра ўсё гэта — гісторыю, мастацтва і спадчыну Пампеяў — і распавядае кніга «Пампеі».

*Абрысы*

У межах XX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу адбылася прэзентацыя дзіцячых кніг выдавецтва «Народная асвета» — «Захапляльнае падарожжа па роднай краіне». На сустрэчу з чытачамі прыйшлі пісьменнікі Міхась Пазнякоў, які пазнаёміў з серыяй «Свет вакол нас», і Уладзімір Мазго, аўтар шматлікіх кніг для дзяцей, сярод якіх — «Лепшыя сябры», «Загадкавая азбука». У імпрэзе ўзялі ўдзел вучні сталічнай сярэдняй школы № 3. Яны падрыхтавалі касцюміраваныя музычныя нумары, чыталі вершы, спявалі беларускія песні.

Экскурсія па выстаўцы «Сустрэча з Гофманам», прагляд мультфільма, а пасля — стварэнне мастацкай работы, прысвечанай Гофману і яго творам. Менавіта такую праграму прадугледжвае акцыя «Гадзіна мастацтва» Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, якая праходзіць у межах міжнароднага выставачнага праекта «Гафманіяна». На гэтым тыдні створаныя навучэнцамі Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў работы дапамагаў ацэньваць мастак Андрэй Ярашэвіч. Лепшыя творы будуць прадстаўлены на радзіме Гофмана — у Калінінградскім абласным гісторыка-мастацкім музеі.

Літаратурны музей Максіма Багдановіча распачынае новы культурна-адукацыйны праект «Рэлікт». На працягу года адбудзецца шэраг прэзентацыйных мерапрыемстваў, якія дапамогуць наведвальнікам пазнаёміцца са скарбамі музея, убачыць унікальныя прадметы з фондаў, звярнуць асаблівую ўвагу на іх гісторыю і ролю ў жыцці і творчасці маладога генія беларускай літаратуры. Першая імпрэза называлася «Нашы скарбы. Слуцкі пояс». У фондах музея захоўваецца слуцкі пояс — адзін з самых каштоўных экспанатаў, шэдэўр беларускага ткацтва сярэдзіны XVIII ст., ён паступіў у фонды ў 1986 годзе. Наперадзе чакаюць новыя сустрэчы з экспанатамі, каштоўнымі здабыткамі, вядомымі і невядомымі.

Работы больш як 20 майстроў саломапляцення з Магілёўскай вобласці экспануюцца ў выставачнай зале «Берагіня» Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта. Тут прадстаўлены традыцыйныя саламяныя лялькі і скульптуры розных памераў. Сярод «саламяных дзівосаў» — кветкі і кветкавыя кампазіцыі, вазы з букетамі, галаўныя ўборы, куфэркі, шкатулкі, сухарніцы, пано і іншыя непаўторныя вырабы.

# Месца на Парнасе

18 лютага спаўняецца 120 гадоў з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. Да таго ж зусім нядаўна мінула стагоддзе з яго літаратурнага дэбюту: 25 студзеня 1913 года ў «Нашай Ніве» было апублікавана апавяданне «У лазні» за подпісам Максім Беларус. У 1914 годзе пабачыў свет зборнік «Рунь», дзе было змешчана хрэстаматыйнае на сёння апавяданне «Роднае карэнне». Беларуская проза гэтым часам толькі бралася ў сілу і апроч публікацый у «Нашай Ніве» ды апавяданняў Цёткі з «Першага чытання для дзетак-беларусаў» была прэзентавана выключна першымі празаічнымі зборнікамі Якуба Коласа («Апавяданні», «Родныя з’явы», асобна выдадзены «Нёманаў дар» ды «Тоўстае палена»). Творчасць М. Гарэцкага адразу стала прыкметнай з’явай, тым больш што пісьменнік меў бясспрэчна высокі інтэлектуальны ўзровень і браўся за справу канцэптуальна.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ, фота прадастаўлена Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры**

У праграмных артыкулах «Наш тэатр» (1913) і «Развагі і думкі» (1914) Максім Гарэцкі сфармуляваў шэраг глабальных, першачарговых пытанняў, якія стаялі перад маладой беларускай літаратурай, — і сам пакрысе на іх адказваў, не пакідаючы па-за ўвагай ні ў адным творы.

Так, «Развагі і думкі» пачынаюцца з роздуму пра «навіну часоў нашых — «свядомых» беларусаў». Бадай, ніхто з тагачасных празаікаў не засяроджваўся на пытанні нацыянальнай самаідэнтыфікацыі так, як М. Гарэцкі: пісьменнікі аўтаматычна залічвалі сялян сярэдняга веку ў катэгорыю беларусаў, а маладых камсамольцаў надзялялі належным светапоглядам мясцовага камуніста. Для Гарэцкага ж было вельмі істотна, ці можа ягоны герой сам сябе назваць беларусам — і калі можа, то што з гэтага для яго вынікае. Бо раптам беларускі рух насамрэч усяго толькі «бязгрэшнае зыканне рамантыкаў дваццатага веку, што... не дбаючы на канцавыя вынікі сваёй справы, неўраджайна, бясплодна і шкодна кіруюцца да таго, каб утопію, немажлівасць зрабіць рэальным фактам»? М. Гарэцкі абдумваў патэнцыі беларускага руху і магчымасць нацыянальнага адраджэння ўсё жыццё, і то захапляўся селянінам з кааператыва «Беларус», які на Усебеларускім з’ездзе «рэспубліку сваю рабіў», то вуснамі іранічнага Мацея Мышкі пасміхаўся з Цёткі, якая даверліва запісвала ад рабочых цікавыя слоўцы...

Добра ўсведамляў М. Гарэцкі і неабходнасць паказаць, «што за народ такі беларусы» — і ў кожным сваім герою, хай то будзе вясковы хлапчук, музыка ці амерыканскі імігрант, імкнуўся выявіць нешта ўласна беларускае, вызначыць і растлумачыць нашы характэрныя рысы, часам даволі нечаканыя.

Як кожны (не толькі беларускі) пісьменнік, М. Гарэцкі горача жадаў змен — у культурным, грамадскім аспекце — і з імпэтам заклікаў калегаў-«парнаснікаў» «смялей і выразней цвярдзіць і гаварыць, да чаго вы кіруецеся і куды вядзіцё народ». Вось толькі сам ён бачыў рэчаіснасць значна больш складанай і шматаблічнай, таму прасталінейна заклікаць, прарочыць ці асуджаць дазваляў сабе, бадай, толькі ў публіцыстыцы. У прозе ж Гарэцкі заўжды быў аналітыкам, стрыманым, уважлівым і праніклівым рэалістам.



*Максім Гарэцкі (злева), яго брат Гаўрыла Гарэцкі, жонка Гаўрылы (злева), маці Ефрасіння Міхайлаўна з унукам Усяславам, сынам Гаўрылы. Малая Багацькаўка, 1924 г.*

Рамантычная тэндэнцыя, вельмі моцная на пачатку XX стагоддзя, амаль не выявілася ў творчасці гэтага аўтара, і ад рэалізму ён «адхіляўся» зусім у іншы бок — у рэчышча натуралізму і дакументалізму. Рамантычную творчасць М. Гарэцкі не ўспрымаў нават як крытык, таму сурова ставіўся да прозы Міхася Зарэцкага і напачатку наогул не заўважыў мастацкай каштоўнасці такіх шанаваных твораў, як «Сымон-музыка» Якуба Коласа, «Адвечная песня» і «Раскіданае гняздо» Янкі Купалы. У тых жа «Развагах і думках» пісьменнік фактычна сцвярджаў, што «шлях карысны — жыццёвы», і «мастацкая праўдзівашнасць — найлепшая дарога літаратуры нашай».

Для М. Гарэцкага было вельмі важна выяўляць і аналізаваць сучаснае яму жыццё — перыяд, які апынуўся лёсавызначальным у беларускай гісторыі. Аповесці «Ціхая плынь», «На імперыялістычнай вайне» адлюстроўваюць Першую сусветную вайну ў кантэксце беларускага жыцця пачатку стагоддзя, аповесці «Дзве душы» і «Камароўская хроніка», раман «Віленскія камунары» з’яўляюцца сапраўды глыбокай мастацкай рэфлексіяй над рэвалюцыйнымі падзеямі, якія ў вачах пісьменніка і яго герояў паўстаюць вельмі адрознымі ад ідэалагічна зацверджанай версіі. «Камароўская хроніка», твор маштабны і пакуль амаль неахопны для даследчыкаў, наогул распавядае пра падзеі 1863 — 1937 гадоў і падаецца надзвычай цікавым дакументальным і аўтабіяграфічным матэрыялам. Аднак дакументальная літаратура заўсёды мае вузкае кола чытачоў: мала хто мэтанакіравана вывучае праблему рэвалюцыі ці асэнсоўвае лёс беларускай вёскі.

Да таго ж апошнія творы М. Гарэцкага месцамі падаюцца надта эпічнымі, сухаватымі ў параўнанні з драматычнымі абразкамі і апавяданнямі першых зборнікаў. Натуральна, гэта тлумачыцца як асаблівасцямі жанру (у выпадку хронік), так і цяжкім унутраным станам пісьменніка: ён быў адным з першых арыштаваных беларускіх літаратараў (18 ліпеня 1930 г.), асуджаны па справе СВБ, і то знаходзячыся ў вельмі неспрыяльных умовах, то не меў натхнення, то спяшаўся хутчэй занатаваць галоўнае.

У кантэксце ж беларускай прозы 1910-х гадоў, пераважна дыдактычнай, сацыялагізаванай ці гумарыстычнай, найбольш вылучаюцца майстэрску напісаныя апавяданні М. Гарэцкага («Зіма», «Прысяга», «Хадзяка», «Генерал»), драматызаваная аповесць «Антон», у якой, паводле Д. Бугаёва, «асабліва выразна выявіўся інтэлектуальна-філасофскі падыход» пісьменніка, а таксама аповесць «Ціхая плынь» — «бадай што самая закончаная і "даведзеная да ладу"» (А. Адамовіч). У гэтых творах даследчыкі знаходзяць рысы і імпрэсіянізму, і паглыбленага псіхалагізму, а ў стылёвым аспекце нават параўноўваюць Гарэцкага з Максімам Багдановічам: лепшыя яго рэчы напісаныя лёгка, тонка і ясна, на сур’ёзным, абсалютна прафесійным узроўні.

М. Гарэцкі ад пачатку спрабаваў пісаць пра беларускае жыццё, пра грамадска-палітычныя і культурныя праблемы так, як гэта маглі б зрабіць Фёдар Дастаеўскі, Антон Чэхаў, Іван Бунін. Магчыма, менавіта таму пісьменнік заўсёды глядзеў на сваіх персанажаў і іх праблемы аднекуль зверху, сур’ёзна і глыбакадумна, быў не побач з героем, не на адным узроўні з ім, а крыху вышэй — на вышыні характэрнага для сусветнай літаратуры усяведама аўтара, які ўсё бачыць, разумее і ацэньвае з пункту гледжання агульначалавечай культуры. Аддаленасць ад героя мела вынікам даволі стрыманае стаўленне да яго з боку апавядальніка: нават пра Лявона Задуму, свайго літаратурнага двайніка, пісьменнік, здараецца, піша крытычна ці іранічна і заўсёды далёкі ад ідэалізацыі ці захаплення. Погляд зверху, а не зблізу да таго ж дазваляў М. Гарэцкаму аб’ектыўна выяўляць часам непрывабнае вясковае жыццё — і пры гэтым не абвінавачваць у сялянскіх бедах выключна паноў, якія, вядома, не цягнулі на станоўчых герояў, але і не абавязкова былі крыважэрнымі пачварамі.

Скептычны погляд на вёску быў вельмі пашыраны і ў рускай літаратуры пачатку XX стагоддзя, але сваёй экзістэнцыяльнай, непазбыўнай самотай пісьменнік, бадай, найбольш блізкі А. Чэхаву: сумна, спадарства, у гэтым свеце — сумна і селяніну, і маладой чарніцы, і віленскаму шляхціцу пану Сташэўскаму — і што рабіць з гэтым сумам, ніхто не ведае, а жыць неяк трэба... І вось праз заклапочанасць надзёнымі, сацыяльнымі, нацыянальнымі пытаннямі неяк ускосна прабіваецца роздум пра рэчы больш універсальныя, больш важныя, але чамусьці менш актуальныя для нашай літаратуры: пра сэнс і кошт чалавечага жыцця, пра гэты свет і яго стваральніка, пра вытокі нашых праблем і пра тое, як варта да ўсяго гэтага ставіцца. Так з адлюстравання і асэнсавання М. Гарэцкі прарываўся да сапраўднага мастацтва...

Максім Гарэцкі — пісьменнік добра вывучаны, але не самы ўшанаваны. Па творчасці гэтага празаіка напісана некалькі дзясяткаў манаграфій, рэгулярна ладзяцца Міжнародныя Гарэцкія чытанні, у Малой Багацькаўцы працуе літаратурны музей — а нават з гэтым пашанцавала далёка не ўсім класікам нашаніўскай пары. Аднак у народнай свядомасці постаць Максіма Гарэцкага, пэўна, паўстае драбнейшай за волатаў нацыянальнага адраджэння Янку Купалу і Якуба Коласа... Пры гэтым Гарэцкі як у 1914, так і ў 1935 годзе пісаў, бадай, больш прафесійна за Коласа, а першая «Гісторыя беларускае літаратуры» падаецца выданнем не менш прэцэдэнтным, чым «Другое чытанне для дзяцей беларусаў». Аднак нават сёння неэтычна будзе рашуча супрацьпастаўляць Гарэцкага Коласу: пісьменнікі не толькі сябравалі адзін з адным, але і разам спрабавалі ратаваць былых калег (прыкладам, Францішка Аляхновіча). Колас жа наведваў і падтрымліваў сям’ю М. Гарэцкага падчас арышту пісьменніка: «Кланяецца табе Жыта і ўсе краскі палявыя», — пісала ў Вятку Л. Чарняўская-Гарэцкая.

З нагоды ж юбілею варта, прынамсі, згадаць версію класічнага Парнаса, прапанаваную А. Адамовічам. Вядомы літаратуразнаўца без ваганняў адводзіў М. Гарэцкаму «месца класіка беларускай літаратуры. Побач з Купалам, Коласам, Багдановічам». І ніяк не ніжэй...

---

9 лютага не стала Івана ПЕХЦЕРАВА, паэта, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі. На Магілёўшчыне добра ведалі і любілі яго творчасць. Іван Ягоравіч паспеў напісаць 14 кніг, якія не залежваюцца на кніжных паліцах. Дзясяткі песень стварылі кампазітары на яго вершы.

На пачатку гэтага года паэт адзначаў 75-годдзе. За шматгадовую літаратурную дзейнасць, прапаганду беларускай літаратуры і ў сувязі з асабістым юбілеем быў узнагароджаны граматай Саюза пісьменнікаў Беларусі. У гонар юбіляра ў бібліятэцы № 3 г. Магілёва была арганізавана літаратурна-музычная вечарына, падчас якой цёплыя словы пра Івана Ягоравіча выказалі старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Дуктаў, кіраўнік літаратурнага аб’яднання «Ветэран» пры Магілёўскім гарадскім савеце ветэранаў Леанід Іскроў, паэт Барыс Варонін. На жаль, цяжкі стан здароўя не дазволіў Івану Пехцераву прысутнічаць на юбілейнай вечарыне.

Пахавалі паэта 11 лютага на гарадскіх могілках, на алеі знакамітых магілёўчан.

**Магілёўскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# Залатаносная парода

10 лютага паэту-рамантыку Аляксандру Новіку споўнілася б семдзесят пяць гадоў. Праз яго вершы можна прасачыць усю біяграфію гэтага незвычайнага чалавека.

**Надзея СЕНАТАРАВА**

У Аляксандра Аляксеевіча цікавы лёс, які нельга назваць лёгкім, але ж і сумаваць яму ў жыцці, відавочна, не выпадала. Ён многа паездзіў і пахадзіў па свеце: бываў на Крайняй Поўначы і Поўдні, Захадзе і Далёкім Усходзе, бачыў разнастайнасць прыродных з'яў і нюансы людскіх паводзін. Нястомны вандроўнік і паэт шкадаваў:

*Да, немало ходил я по свету*
*И в мороз, и в метель, и в пургу,*
*Но такую большую планету*
*Обойти я никак не могу.*

Па пуцёўцы камсамола Аляксандр Новік у 1959 годзе паехаў з Мінска ў Магадан, дзе пачалася грандыёзная будоўля стагоддзя. Ён працаваў мантажнікам, электразваршчыкам, старацелем і ўвесь час пісаў вершы — пяшчотныя і простыя, добрыя і мудрыя, пра каханне і сяброўства, пра цудоўную прыгажосць Крайняй Поўначы і няпростае жыццё яе народаў.

Амаль сорак год пражыў паэт у велічным паўночным краі з суровымі прыроднымі ўмовамі, але цёплымі чалавечымі адносінамі, калі людзі розных нацыянальнасцей, з'яднаныя адзінай мэтай, агульнай справай, жылі адной дружнай сям'ёй. Жыццё ў далёкім краі тым не менш не астудзіла сыноўняй любові А. Новіка да роднай Беларусі, ёй прысвечаныя многія вершы паэта. Беларускія краявіды апяваюцца гэтак жа замілавана, як і паўночныя.

Калі паэт знаходзіўся на чужыне, настальгічныя ноткі час ад часу ўзнікалі ў яго вершах. А калі жыццё стала набываць устойлівасць, пачалі клікаць да сябе мясціны маладосці: «Где меня по свету не носило! / Я устал, пора бы отдохнуть, / Но какая-то слепая сила / Всё зовёт меня в далёкий путь».

Пошукі гармоніі ў чалавеку і ва ўсім, што яго акаляе, былі сэнсам жыцця Аляксандра Новіка. Можна толькі здагадвацца, што давялося пабачыць і праз якія выпрабаванні прайсці шчыраму працаўніку і добраму чалавеку, нашаму земляку, але паэтычная яго душа заставалася па-дзіцячы чыстай і пяшчотнай:

*Машет стылым крылом*
*запоздалая осень.*
*Снеговые плывут надо мной облака.*
*Грозди спелых рябин*
*над окном моим носит*
*Недалёкой зимы ледяная рука...*

У яго творах жыццё паўстае перад намі светлым, не абцяжараным пачуццямі смутку, страху, трывогі.

Аляксандр Новік і ў апошнія свае гады плённа выдаваў на-гара залатаносную пароду творчых прац. Аўтар гаварыў: «Я не зову себя поэтом», — але прызнаваўся: «...а пока / Слетает рифма с языка / И ежечасно, ежедневно, / Будь то в мороз или в жару, / Рука всё тянется к перу».

Ён быў цікавым апавядальнікам, пра што б ні заходзіла гаворка: пра жыхара тайгі мядзведзя, які рэгулярна наведваецца да старацеляў, пра штодзённую нялёгкую працу, пра рыбалку. Ёсць у творчасці А. Новіка і гумарыстычныя творы. З усмешкай пісаў ён пра сучасныя яму рэаліі.

«Недалёким прошлым я горжусь», — гаворыць паэт, ды і як выкінеш з памяці горад сваёй маладосці Магадан, маляўнічыя краявіды Крайняй Поўначы, якія не толькі выразна адлюстраваліся ў памяці, але і дагэтуль жывуць у вершах:

*По распадкам узким красная брусника*
*Укрывает землю дорогим ковром.*
*А ещё под елью — только загляни-ка —*
*Встретишься с евражкой и бурундуком...*

Карціны мінулага часта прыходзілі і ў сны Аляксандра Новіка. «Мне и теперь всё снятся холода», — пісаў ён у прысвячэнні жонцы Валянціне, а ў вершы «Метель» адчуваецца туга па далёкай Поўначы: «Знаю, будет на Родине мне / Сниться северной ночи туман. / Ту метель буду видеть во сне / И тайги голубой океан».

Нябёсы радзімы, цёплыя сонечныя промні, жывыя крыніцы, зялёныя дубровы жывілі паэта і натхнялі яго на новыя творы:

*Зачерпну весны глоток,*
*Что в окно стучится.*
*Мчится солнечный поток,*
*Или мне всё снится?*

*Рвутся счастья провода,*
*Плачут свечи слёзно.*
*Во дворе блестит вода,*
*Но ещё морозно...*

Так паступова, год за годам пісаліся вершы, выходзілі ўсё новыя і новыя зборнікі і, пачынаючы падводзіць вынікі сваёй творчай дзейнасці, Аляксандр Новік прамовіў у вершы «Тетрадь забытая моя»:

*Кто, интерес к ней не тая,*
*Возьмёт — и ахнет:*
*Тетрадь забытая моя*
*Стихами пахнет...*
*Здесь рек крутые берега*
*И гладь морская.*
*Тетрадь, о, как ты дорога,*
*Как прядь седая...*

# «Мы людзі няпростыя»

Спасцігаць сваё, дазнавацца, хто ты ёсць на гэтай зямлі, не бывае рана альбо позна. І на шляху да сваіх каранёў, да пракаветнага, сакральнага вельмі дарэчы будзе добры дапаможнік. Напрыклад, такі, як новая кніга Ірыны Клімковіч «Калі адчыняюцца нябёсы».

**Алена КАРП**

Гэтае выданне ўніверсальнае. Вынікі сваіх даследаванняў аўтар знарок падае даступна і папулярна, каб таямніцы нашай гісторыі адкрыліся і непасвячоным. Міфалагічныя замалёўкі, аздобленыя ілюстрацыямі Аляксандра Каршакевіча, разбітыя на невялікія па аб'ёме часткі, здольныя захапіць і ўтрымаць увагу няўрымслівага школьніка. Дарэчы, якраз падлеткі і былі іх першымі чытачамі: многія артыкулы ў свой час друкаваліся ў часопісе «Бярозка». Але і для дарослых, асабліва тых, хто раней не быў абазнаны ў міфалогіі, гэтая кніга можа стаць праваднікам у чароўны свет даўніх легендаў, паданняў, вераванняў.

На паліцы з кнігамі для падлеткаў выданне «Калі адчыняюцца нябёсы» можа стаць побач з «Легендамі і міфамі Старажытнай Грэцыі» Мікалая Куна. А магчыма, будзе суседнічаць з кнігай «Заклятыя скарбы», у якой легенды і паданні пераказаў для дзяцей Уладзімір Ягоўдзік, а праілюстраваў Аляксей Навіцкі. Напэўна, многія памятаюць гэтае даўняе, 1992-га года, выданне. Прынамсі, не адно дзіцячае сэрца яно прымушала трымцець ад жаху перад кадуком, трасцай ды іншай нечысцю.

Калі ж гаварыць пра «дарослы» кантэкст, то трэба адзначыць, што ён у нашай культурнай прасторы не ў малой ступені ствараецца высілкамі самой аўтаркі. Так, Ірына Клімковіч спрычынілася да энцыклапедычнага даведніка «Беларуская міфалогія», які стаў настолькі запатрабаваным, што двойчы перавыдаваўся. У 2011 годзе пабачыла свет сумесная з Людмілай Дучыц кніга «Сакральная геаграфія Беларусі» і «Культавыя і гістарычныя камяні Беларусі», напісаная ў суаўтарстве з Людмілай Дучыц, Эдвардам Зайкоўскім, Аляксандрам Карабанавым, Валерыем Вінакуравым.

Пра што новая кніга? Пра тое, што мы як нацыя багацейшыя, чым думаем, «мы людзі няпростыя» — можам сказаць пра сябе, пераасэнсаваўшы радкі даўняй калядкай песні. Дзеля таго, каб давесці гэта, Ірына Клімковіч не толькі ўзнаўляе, пераказвае легенды (дарэчы, запісаныя непасрэдна падчас вандровак па Беларусі), але і вытлумачвае іх, расшыфроўвае сэнс старажытных абрадаў. Яе задача — не проста захапіць чытача паэтычным, незвычайным светам беларускай міфалогіі, але і даць ключ да яго разумення. Даследаванне — крок за крокам — адбываецца на вачах чытача. І такі падыход здольны, па-першае, спрасціць успрыманне дзякуючы сваёй строгай лагічнасці, па-другое, схіліць чытача да ўласных пошукаў. Тым больш што неразгаданага, невытлумачальнага ў нашай міфалогіі яшчэ дастаткова.




Гэтая кніга пра тое, што ў шырокім свеце мы свае, што беларуская культура паяднаная з культурай сусветнай. Так, паданні пра скамянелых жанчын маюць аналагі з біблейскім сюжэтам пра Садом і Гамору і жонку Лота. Грэчаскі Арэс і рымскі Марс апынаюцца раднёй нашаму Ярылу, а культ ваўка прымушае згадаць і капіталійскую ваўчыцу, і кітайскія хронікі.

«Міф — гэта вечнае люстэрка, дзе мы бачым саміх сябе», — сцвярджае аўтарка. І значыць, мае сэнс азірнуцца назад, расчытаць код даўніх міфаў, каб крочыць наперад. Выводзячы «радавод» таго ці іншага боства, даследчыца тым самым узнаўляе наш агульны радавод. Гэта праца на будучыню, на перспектыву. Клопат пра яе выяўляецца і ў канкрэтных прапановах: «...калі-небудзь менавіта тут ушануюць яго [Менеска — **А. К.**] памяць цудоўным помнікам», і ў выразным асабістым стаўленні да таго, пра што вядзецца гаворка: «Паступова таямніцы старажытных прафесій сыходзілі і працягваюць сыходзіць у нябыт, страчваецца іх сакральнасць. Добра гэта ці кепска? Я лічу, што кепска. Мы міжволі губляем сувязь з прыродай, са светам продкаў, не разумеем і аддаляемся ад іх».

Між тым, алегарычны сэнс міфаў і дагэтуль прачытваецца актуальна, напрыклад, як сюжэт пра каралеўну, выратаваную Святым Юр'ем. Праз легенды, паданні засвойваецца ўяўленні нашых продкаў пра дабро і ліха. І нам, сучаснікам, можа быць карысна звярацца з гэтымі ўяўленнямі, не робячы, аднак, паспешлівых высноў.

Найбольш прыдатная для кнігі аўдыторыя — тыя, «хто не пачуваецца на гэтай зямлі абыякава». Але неабыякавасць, зацікаўленасць сваім краем можа прыйсці нечакана, як гэта здарылася аднойчы з самой аўтаркай, пра што мы дазнаемся з некананічнага, адметна-шчырага «Слоўка пра сябе». Таму варта не паленавацца, не абмінуць увагай гэтую кнігу, і, магчыма, якраз яна стане імпульсам і надалей адкрываць нашы, беларускія, нябёсы.




# З чыстай старонкі

**Наталля ВАЯГА**

У новы год, як у новае жыццё, рушыў «Вожык». Таму адразу ж можна заўважыць, што часопіс папрыгажэў, крышачку змяніў імідж і стаў яшчэ больш жыццярадасным.

Як прыклад — карыкатуры на тэмы, якія не змогуць пакінуць вас абыякавымі. Гэта і ўзаемаадносіны мужчыны і жанчыны, начальніка і падначаленага, дарослых і дзяцей. У гэтым нумары вы знойдзеце падборку «Актуальных карыкатур» Аляксандра Каршакевіча, рубрыку «Сатырычнае рэтра», вернісаж Анатоля Гармазы, «Аўтасалон», «Цёмныя Захады».

Хоць «Вожык» і шукае нешта новае, але ж не забываецца на сваіх старых сяброў. Вельмі радуецца, калі яны завітваюць да яго ў госці, каб папіць гарбаты, расказаць апошнія навіны і паказаць новыя творы. Напрыклад, у іранесцы «Неспрыяльны дзень» Міхась Сліва дзеліцца гісторыяй, якая здарылася ў рэдакцыі яго газеты пасля таго, як там пачалі друкаваць прагнозы-гараскопы. Неўзабаве супрацоўнікі атрымалі заўвагу: «...— Я не атрымала сёння газету і таму не ведаю, які сёння дзень: спрыяльны ці неспрыяльны. Сяджу і пакутую, думаю, прымаць лекі ці не...»

Надрукаваў часопіс і два творы Васіля Ткачова. Адзін — пра «ветэрынара», які не мог доўга заставацца камусьці абавязаным («Вылечыў»), а другі — пра прыбіральшчыцу, якая «апранілася з іголачкі» і таму яе аднойчы прынялі за дырэктрысу («Модніца»).

А вось у гумарэсцы «Жонка ці русалка» Паўла Сакавіча галоўны герой разгадвае загадку: каго начальнік «ловіць» у краме «Акіян». «Праз дзень я зноў убачыў шэфа на знаёмым месцы. Гэта ўжо не магло быць выпадковым супадзеннем. Тым больш, што дамоў яму трэба ехаць не адсюль і на іншым транспарце». Цікава, чым усё скончылася?

З «Іголкатэрапіі» чытачы дазнаюцца, як можна падманваць «па-чорнаму», якіх «нелегалаў» канфіскавалі ў Слоніме і чаму кіраўнікі двух фермерскіх гаспадарак у Лідскім раёне павялі сябе «па-свінску».

У рубрыцы «Навіны з МУС: матай на вус» расказваецца пра апошняга рамантыка з Горак, пра тое, як трое бабруйчан узялі прыклад з Віні-Пуха і якія эксперыменты лічацца незаконнымі ў Маладзечне.

А яшчэ наш «Вожык» вельмі любіць пачытаць добрую і вясёлую паэзію. Напрыклад, Міколы Чарняўскага, Міхася Уласенкі, Аркадзя Нафрановіча, Людмілы Юшынай, Віктара Баранца.

## Віктар ШНІП



***
Вось і ўсё… І я зрабіўся сіратою,
І цяпер мой кожны новы дзень —
мой глыж,
Што ўзыходзіць чорным сонцам
нада мною
І ўрастае ў неба, як у глебу крыж
На магіле бацькі, на магіле маці…

Вось і ўсё… І хата, як пусты каўчэг,
І, як хлапчуку, мне не сядзіцца ў хаце,
Хоць ніхто не кліча на бялюткі снег
І ўжо не пакліча, бо няма нікога,
Каб паклікаць. Сам іду я па двары
На дарогу, па якой пайшлі да Бога
І бацькі старыя, і мае сябры…

***
Спакойнае неба Айчыны,
Як купал адвечнага Храма,
Які берагчы мы павінны,
Дзе сёння іконаю мама
Мне стала і будзе іконай
Маёю, пакуль я жыву,
Дый потым травою зялёнай
Не стане, бо сам я ў траву
Сыду, каб іконаю мама
Была нада мною заўжды,
Дзе помнікі сценамі Храма
Стаяць ля крынічнай вады
У Ракаве родным і мілым,
Дзе светла, дзе гойна, дзе я
Стаю каля кожнай магілы
І кожная з іх, як мая…

***
Мог я нарадзіцца у Парыжы,
Толькі нарадзіўся ў Пугачах,
Дзе з лясоў асенні
вецер рыжы
Рассыпае лісце па шляхах,
Па якіх вяртацца мне
дахаты,
Дзе ёсць хата, толькі
ў ёй няма
І не будзе болей мамы й таты,
І чакаць іх і гукаць дарма.
І па лісці я іду асеннім,
Быццам па пражытых
мной гадах,
І гатоў паўзці я на каленях,
Каб вярнуцца ў час, дзе ў Пугачах
Мы жывём усе, і нам далёка,
Быццам да Парыжа, да кладоў,
Над якімі сонца і аблокі,
Як самота наша і любоў.
І калі бацькі ўжо не чакаюць,
Нас чакаюць восень і клады,
Дзе вятры лісцё перабіраюць,
Як памерлых райскія сляды…

***
Мама і тата сваё пражылі…
Мама і тата ляжаць у зямлі…
Снегам прысыпаны кветкі й крыжы.
Хочаш, лажыся і побач ляжы,
Бо ўжо нічога не зменіцца тут.
Гэта і ёсць цяпер родны мой кут,
Самы найродны і самы святы.
Сыплецца снег, бы ў нябёсах сады
Раптам самотна за ноч адцвілі,
Толькі пабачыўшы, што на зямлі
Мамы і таты ў мяне ўжо няма…
Мама і тата… Зіма і зіма…

***
Мама і тата, як сонца і месяц,
Сёння ў нябёсах жывуць нада мною.
Снег, нібы гліну бялюткую, месяц
Ногі мае — не знаходжу спакою,
Страціўшы маму, а следам і тату.
Свет свой магу я са снегу стварыць
І збудаваць сабе белую хату,
Дзе буду з татам і мамаю жыць.
Толькі са снегу, што створыцца, згіне,
Стане вясною халоднай вадой.
Рукі я вымажу ў прыску і гліне,
Прыскам і глінаю буду, са мной
Будуць і мама, і тата, якія
Сёння ў нябёсах, як сонца і месяц,
Светла жывуць, хоць яны нежывыя,
Снег на дарозе завоблачнай месяць
Так, як і я на зямлі, адзінокі,
Дзе сёння гурбы, нібыта аблокі…

***
За мамаю тата няспешнай хадой
Па Млечнаму Шляху ідзе нада мной,
І сыплецца снег з-пад натомленых ног
У мамы і таты. Чакае іх Бог
Далёка-далёка ад роднай зямлі,
Дзе нават і ў думках яны не былі.
Мне бачна, што тата
ад мамы адстаў,
І мама чакае яго, каб дагнаў
І першым пайшоў, як ідзе гаспадар…

Снег сыплецца светла,
і сыплецца з хмар,
Бо сёння да Бога няспешнай хадой
Па Млечнаму Шляху ідуць нада мной
І мама, і тата — чакае іх Бог,
Паклікаўшы ў неба з вясковых дарог…

***
Як у сталых людзей,
і ў мяне дзве магілы,
І бацькоўская хата старая, пустая,
І на хаце страха, нібы шэрыя крылы
Шчэ жывога анёла,
што больш не лятае…


Фота Кастуся Дробава

## Уладзімір ЦІШУРОЎ



## Зімовае...

За снягамі, за віхурнымі,
як жывецца табе, негламурная?
У мяне распытай
і пра хмарнасць, і вею,
і я хмарнасць тую развею,
а на веру ўзяўшы
з прымавак словы,
апануе цябе час зімовы...
...Скача снег па палях
зайчаняткам галодным,
ён з такой халаднечай
аніколькі не згодны!
І бяжыць ён, здаецца,
над безданню з краю,
па магчымасці сіл і адчаю, —
што пашле яму лёс, —
аніколькі не знае...
Дзе той зайка-гарэза
спагаду спазнае?
Мне з тым зайкам
узяць параўнанне?
Дзеля смеху... і —
невяртання кахання...
Як з узвейнага неба сняжынкі,
так на голаў ляцяць смяшынкі...
У каханне, бы ў рай,
варта зноў не пускае,
на грахі на мае намякае.
На гары ветравой
строга свецяцца вокны,
заяц болю майго
перад вокнамі
скокнуў...

## Страчаная песня

У страчанай песні
на немасць правы,
за страчаным днём
ляціць дух палыновы.
Як цар занядбаны,
забыты вады,
ныраю ў ваду —
за грахі і вымовы.
Мой розум згубіўся
ў падліку гадоў,
размыта цярпенне
напорам расстання.
Праз ляда грахоў,
перашкоды вымоў
іду да цябе,
бы ў краіну маўчання.
Я смуткам тваім
працінаю сябе
да немагчымасці
сцерпу, трывання.
І дорыць мне лес
маладую цябе,
у цемру вядзе
і ў краіну пазнання.
Міргне мне ручай
веснавое вады,
плыве у ім попел
сляпога здзіўлення.
Скакалі вядзьмаркі
з азерцаў бяды,
я ведаю: многа
ссівела жуды
у храме тваім,
у пакуце малення.
Над попелам часу
працягнецца міг,
і міг
увасобіцца ў слова.
Малітва віны,
як кароценькі ўздых,
ці мне аднаму,
ці нам — на дваіх?
Суддзёю сабе...
Шапчу з радасці словы.

## Тамара МАЗУР



## Знічкі

Я люблю, як падміргваюць знічкі
І натхняюць на пачуццё.
Мо не варта такою звычкай
Сілкаваць наўздагад жыццё?

Але ж вось яны — у бязмежжы,
Клічуць сэрца ў святую даль.
Я ад Млечнага Шляху залежу
І спраўляю між зорак баль.

Мітусня на зямных арэлях
Разгайдалася не на жарт.
Нехта з доўгіх гадоў старэе,
А ўва мне — малады пажар.

Хвіля кожная — сэнс багацця,
Ах, як хочацца жыць ды жыць.
Хай падміргваюць знічкі шчасця
І зайздросліва ветах глядзіць!

## Зорны дом

У соты раз тушу агонь
Сваёй разважлівай няволяй.
Твая шурпатая далонь —
Ярамі ссечанае поле.

Твае абдымкі — свет зямны,
У пацалунках — сок сунічны.
І ўсё ж не ведаеш цаны
Маёй бяспекі навальнічнай.

І ўсё ж, пакуль агонь не згас,
Жыву наложніцай тваёю.
Гары ён гарам, гэты час,
Што так шкадуе нам спакою!

Ты шэпчаш штосьці
пра Зорны дом...
І я, халодная камета,
Як незямным ружовым сном
Тваёй пяшчотаю сагрэта.

## А Бог прабачыць

А Бог прабачыць зможа грэх
Табе — ужо за тое,
Што мне вярнуў шчаслівы смех
І зняў ад сэрца злое.

Што адрадзіў маю душу,
Якой няма спакою.
Ізноў пісьмо табе пішу
Царыцаю ў пакоі.

І смутак леташні сышоў
За далягляд барвовы.
Хай не хапае трапных слоў
І блытаюцца словы.

Я знаю месца на зямлі
Сваё... І прызначэнне.
З табой мы шчырымі
былі —
І наша ў тым збавенне.

## Над Нёмнам

На высокай гары
Па-над Нёмнам маўклівым
У вясновай пары
Дзень я скрала шчаслівы.

Ах, які тут абшар!
Вольна думкам паэта,
І ніякі цяжар
Мне не цісне за гэта.

Тут, ва ўладзе жыцця,
Веснавога, зямнога,
Спазнаю: пачуццяя
Не бывае замнога.

Пачуцця дабрыні
І любові да краю,
Дзе мае карані
І патолю я маю.

На гары пастаю
Па-над Нёмнам высока.
Божы Дар спазнаю —
Лес, ваду і аблокі.

# Алесь МАРЦІНОВІЧ



Дакументальна-мастацкая кніга «Брама, адчыненая ў вечнасць» Алеся Марціновіча адрасаваная дзецям, і распавядае яна пра жыццёвы і творчы шлях Максіма Гарэцкага. Кніга выходзіць у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў серыі «Гісторыя ў асобах». Прапануем з яе некалькі раздзелаў, у якіх расказваецца пра маленства М. Гарэцкага.

## СКРЫНЯ, ТАЯМНІЦАМІ БАГАТАЯ

Даўней быў вельмі папулярны выраз: «Хата — вугламі багата». Па тым, што ў ёй мелася, можна было меркаваць, як жывецца яе жыхарам. Сям'ю Гарэцкіх нельга было аднесці да багатых. Таму іхняя хата нічым не рознілася ад хат іншых вяскоўцаў, дзе таксама ўсё было проста, нічога лішняга. А яшчэ ў іх у халодную часіну давалі прытулак хатняй жывёле. У познюю восень і ўзімку там жылі ягняткі, цяляткі, парсючкі, а часам і авечкі. Дзецям жа такое нечаканае суседства толькі ў радасць. Цацак на той час асабліва не было. А тут — гэткія незвычайныя «цацкі». Ды яшчэ жывыя. Цешыліся імі — нацешыцца не маглі.

Вельмі холадна было ў зімовую пару і ў сенцах. Але дзяцей цягнула туды, як і ўлетку, калі ў іх адчувалася прахалода. Хоць не так самі сенцы вабілі іх, колькі невялічкая баковачка-камора.

У баковачцы стаяла маміна скрыня. Канечне ж, ім вельмі хацелася ў яе зазірнуць. Мама часам і сама дазваляла зрабіць гэта. Тады радасці дзяцей не было мяжы. Асцярожна адчынялі вечка. Потым пачыналі з цікаўнасцю разглядаць, што ў скрыні ляжыць. Здавалася б, даўно ўжо ведалі, што і дзе знаходзіцца ў ёй. Ды ўсё адно кожны раз для іх гэта адбывалася быццам упершыню. З ранейшым захапленнем і цікаўнасцю разглядалі маміны хусткі, апратку. Старанна, не спяшаючыся, даставалі ўсё, каб дакапацца да самага дна.

Нярэдка мама заспявала іх за гэтым занятакам.

— Колькі можна глядзець адно і тое ж? — пыталася строга.

Аднак строгасць яе хутка знікала. Успомніўшы, што ў маленстве і сама любіла гэткі ж занятак, усміхалася. Ёй жа калісьці таксама было вельмі цікава зазіраць у скрыню сваёй маці.

— Дык гэта ж так цікава! — хтосьці з дзяцей нібыта ўгадаў яе думкі.

— Мы ўсё пакладзём на месца, — абяцаў за ўсіх Максімка.

— Праўда? — жартаўліва перапытвала мама.

— Чэснае слова, — сур'ёзна адказваў Максімка.

— То я пайшла, — казала яна і вярталася назад у хату.

## САМАЕ СМАЧНАЕ — ЦУКЕРКА

Калі за ёй зачыняліся дзверы, дзеці пачыналі між сабой шушукацца. Яны ўжо ведалі, што ў такога наведвання мамай сенцаў бывае працяг. Звычайна праз некаторы час яна вяртаецца з цукеркамі. Гэта ж такая радасць — смактаць іх. Асабліва калі яны на палачцы. Бадай, няма больш прыемнага занятку.

Адно кепска: звычайна кожнаму перападае толькі па адной цукерцы. Старэйшыя дзеці, праўда, успрымалі гэта спакойна. Ведалі, што, калі б у мамы было больш цукерак, яна абавязкова б дала ім яшчэ. А так — што мела, тым і дзялілася. Аднак маленькая Ганначка ніяк не хацела мірыцца з тым, што ёй дасталася ўсяго адна цукерка.

— Мамачка, — пачынала прасіць яна. — Можа, яшчэ адну знойдзеш?

— Няма, дачушка, — уздыхала мама. — Калі б была, няўжо я табе пашкадавала б, — і, тулячы да сябе Ганначку, дадавала: — Другі раз куплю болей. Тады абавязкова дам табе дзве цукеркі.

— Дзве? — вочы Ганначкі пачыналі іскрыцца радасцю. — А ты не хлусіш? — яна ніяк не магла паверыць, што так і будзе.

— Мама ніколі не хлусіць, — упэўнена казаў хто-небудзь са старэйшых дзяцей. — Цябе яна ніколі не пакрыўдзіць.

Ад пачутага маме станавілася прыемна на сэрцы. Радавалася, што харошыя дзеткі ў яе растуць. Паслухмяныя, разумныя. Разумеюць: няма ў хаце грошай, каб купляць шмат цукерак. Хоць, як быццам, не такія і дарагія яны. На адну капейку атрымліваецца сем штук. Толькі капейка да капейкі і рубель атрымаецца. Нездарма кажуць, што капейка рубель беражэ. Можна будзе прыдбаць і штонебудзь іншае, без чаго ў гаспадарцы не абысціся. Без цукерак жа і патрываць можна.

Ганначка, як маці пайшла ў хату, упэўнена сказала:

— Хутка цукерачкі прынясе.

— А калі іх у яе няма? — засумняваўся Гурык.

Гурыкам усе сямейнікі называлі Гаўрылу.

— Ёсць! — упэўнена адказала Ганначка. — У мамы заўсёды ёсць цукеркі.

Акурат у гэты час дзверы ў сенцы расчыніліся, і паказалася мама. У правай руцэ яна трымала цукеркі.

— А што я казала? — Ганначка, як тая козачка, пачала скакаць на адной назе, паўтараючы: — Цукерачкі «прыйшлі»... Цукерачкі «прыйшлі»...

Калі ж мама пачала раздаваць іх, Ганначка ў захапленні ўскрыкнула:

— Ой! Дык яны ж на палачцы!

— На палачцы, на палачцы, — зашчабяталі іншыя дзеці.

Кожны ўзяў сваю цукерку. Мама, каб не перашкаджаць ім, пайшла назад у хату.

— Так смачна! — аблізваючы сваю цукерку, усміхалася Ганначка.

— І я ніколі такой смакаты не каштаваў, — здзівіўся Гурык.

Максімка на гэта нічога не адказаў. Навошта лішнія словы, калі і так усё зразумела.

Як і ўсе дзеці, ён стараўся расцягнуць задавальненне. Не еў цукерку, а старанна аблізваў яе. І так, і сяк. І зверху спрабаваў, і знізу. Языком кранаўся толькі злёгку. Ды ўсё адно цукерка хутка раставала ў роце.

— Яшчэ б адну, — уздыхнула Ганначка, калі ў руках у яе засталася толькі палачка.

— Вазьмі маю, — Максімка прапанаваў сястрычцы тое, што засталося ад ягонай цукеркі.

— А табе? — запытала яна, але ад прапановы не адмовілася.

— Я ўжо дарослы, — сур'ёзна сказаў Максімка. — Эх, малеча, — засмяяўся ён, — вам усё цукеркі ды цукеркі.

— Калі ж нічога больш такога смачнага няма, — за ўсіх адказаў Гурык.

## СНЯЖЫНКІ... ЛЕТНЯЮ ПАРОЮ

Усе задумаліся, чым бы яшчэ заняцца.

— А што, калі нам палавіць сняжынкі? — прапанаваў Максімка.

Хоць і даўно ўжо наступіла лета, ні ў кога такая прапанова не выклікала здзіўлення.

Сняжынкі ж гэтыя былі не звычайныя, а сонечныя. Таму не на двары лёталі, а ў хаце. Самае цікавае ў тым, што ўлетку іх было нават куды болей, чым зімой. Таму што і святла летам болей, чым узімку.

— Я першая буду лавіць, — Ганначка заспяшалася ў хату.

За Ганначкай пакрочылі астатнія дзеці.

Калі яны гурбой накіраваліся да акна, што знаходзілася ў левай сцяне, маці адразу пра ўсё здагадалася.

— Не можаце без сняжынак? — засмяялася яна. — Няўжо не надакучыў вам гэты занятак?

— Гэта ж так цікава! — хорам адказалі дзеці.

У хаце было тры невялікія вокны. Падобныя між сабой. У кожным адна рама, мутнаватая шыба. Тым не менш тое акно, што знаходзілася ў левай сцяне, ім асабліва падабалася. Бо гэта было... вясёлае акно.

Хто першым так назваў яго, усе ўжо і забыліся. Ды гэта не так і важна. Важна, што гэтае акно сапраўды было вясёлым.

Знаходзілася яно на сонечным баку хаты. Таму ў яго часцей, чым у іншыя вокны, зазірала сонейка. А яно, як і дзеці, было вельмі цікаўнае. Праўда, дзецям хацелася ведаць, што робіцца на двары, а сонейку...

Сонейку так цікаўна было зазірнуць у кожны куточак хаты. Дзеля гэтага яно і пасылала свае праменьчыкі. Яны ж, зазірнуўшы праз шыбу ў хату, мітусіліся. Штурхаліся між сабой, як тыя дзеці, якім хочацца пажартаваць. Калі ж на шляху сустракаліся пылінкі, то яны ад святла праменьчыкаў пачыналі свяціцца.

Пылінак было вельмі шмат. І кожная з іх старалася абагнаць тую, што вырвалася наперад. Таму пылінкі быццам набягалі адна на адну. Калі ж яны выстройваліся ў ланцужок, то ўтвараліся невялікія сонечныя сцяжынкі. Адны з іх мітусіліся на падлозе. Другія, узняўшыся ўверх, гарэзліва прабягалі па сценах. Некаторыя ж, найбольш спрытныя, гатовы былі нават праз шыбу вырвацца на прастор.

Так хацелася злавіць іх. Толькі сонечныя сняжынкі ніяк не даваліся ім. Калі хто-небудзь з дзяцей сваімі ручанятамі набліжаўся да іх, яны разбягаліся ў розныя бакі.

Было, праўда, і іншае непаўторнае відовішча. Нават больш прыемнае, чым сузіраць сонечныя сняжынкі. Праўда, зусім не ў хаце, дзе больш не было нічога, што асабліва цікавіла дзяцей. Затое, калі выйдзеш на двор, адыдзеш на некалькі метраў ад хаты, то...

Хто першы прыкмеціў гэта, яны ўжо і забыліся. Нехта са старэйшых. Затое пабачанае стала сапраўдным адкрыццём. Як гэта дагэтуль яны тут нічога адметнага і не заўважалі?!

Хоць, здавалася б, што цікавага можа быць у саламянай страсе. Ды прыгледзеліся ўважлівей — цуд, які яшчэ трэба пашукаць. За шмат гадоў, нават не гадоў, а дзесяцігоддзяў, яна паспела зарасці густым-густым мохам. Уражанне было такое, што хтосьці разаслаў на страсе вялізны зялёна-аксамітавы дыван.

Пасля гэтага і родная хата пачала падавацца дзецям ужо не звычайным жытлом, а зачараваным палацам. Мабыць, нейкі злы чараўнік хацеў, каб ён увесь урос у зямлю. Толькі дзе там! Не атрымалася гэта ў яго. Сцены, праўда, невысокія. Дый старыя яны. Затое страха... Адна любата! Зімой яна нават больш вабіць да сябе, чым у іншыя поры года. Вакол жа бялюткі, нібы тая прасціна, снег. Часам яго намятае пад самыя вокны. Белізна такая, што ажно ў вочы коле. На гэтым фоне страха яшчэ больш прываблівае сваёй зялянінай.

Праўда, у сяго-таго з вяскоўцаў хаты таксама паспелі пакрыцца мохам. Затое гэткага калодзежа, як у Гарэцкіх, ні ў кога няма. І не толькі ў Малой Багацькаўцы. Набраць з яго вады некаторыя прыходзілі нават з Вялікай Багацькаўкі. Не задумваючыся, пераадольвалі кіламетр-паўтара.

Таму і ішлі многія да Гарэцкіх, бо даўно ўпэўніліся, што ў іхнім калодзежы вада — найлепшая ў наваколлі. Некаторыя, паспытаўшы яе, нават называлі «салодкаю». Адкуль такі непаўторны смак, ні для каго сакрэтам не было. У тым месцы, дзе стаяў калодзеж, знаходзілася крыніца, і ён жывіўся яе сцюдзёнай вадою.

Блізу ста гадоў гэты цуда-калодзеж шчодра дарыў усім сваю «салодкую ваду». Дзецям жа і радасць прыносіў. Ганарыліся яны тым, што больш ні ў кога такога калодзежа няма.

## ЯКАЯ РАДАСЦЬ — МАМІНЫ ПЕСНІ

Маці Максімкі розныя песні ведала: і сумныя, і вясёлыя, і жартоўныя. Некаторыя ён запомніў у зусім яшчэ малым узросце. Дый як не запомніць было, калі мама так часта спявала іх.

І падчас якой работы ў хаце.

І калі разам з жанкамі доўгімі зімовымі вечарамі прала ці ткала.

Спявала Максімкава мама і ў час жніва. Нярэдка брала на палетак з сабой і дзяцей. Каб не сядзелі адны дома. На полі ж яны знаходзіліся хоць пад нейкім наглядам. А то, не дай бог, калі застануцца ў хаце адны, можа з імі што-небудзь здарыцца.

Аднак самыя першыя маміны песні Максімка пачуў яшчэ тады, калі яна спявала яму калыханкі, укладваючы спаць. Засынаць жа так не хацелася. Але слухаў, слухаў, як мама ціха напявае, і ягоныя вочкі самі сабой непрыкметна пачыналі заплюшчвацца.

Мама ж усё спявала і спявала:

*А йдзі, коця, ны ганык,*
*Прінясі Максімку быранык;*
*А йдзі, коця, на вулку,*
*Прінясі Максімку хлеба булку;*
*А йдзі, коця, у лясок,*
*Прінясі Максімку пыясок;*
*А йдзі, коця, на таржок,*
*Прінясі Максімку піражок;*
*А ты, акоця, не вурчы,*
*А ты, дзетка, сьпі, маўчы...*

Па-свойму спявала. Як спявалі ў Малой Багацькаўцы і іншыя жанчыны. Таму Максімку і было ўсё зразумела. Калі ж мама скончыла спяваць, ён пацікавіўся ў яе:

— А мне быранык купіш?

— Куплю, дзетка, — запэўнівала яго мама. — Абавязкова куплю.

Быранык — гэта абаранак. У той час баранкі былі рэдкасцю ў сялянскай хаце. Як і булкі. Хоць Максімка, як і іншыя дзеці, надта і не бедаваў. Прывык да такога жыцця. Ёсць хлеб, то і добра. Дый ведаў, што, калі будуць грошы, прысмакаў мама абавязкова пастараецца купіць.

Часам мама прыпявала і забаўляючы Максімку. Канечне, вольнага часу ў яе было мала. Ды старалася хоць крыху выкраіць яго, каб пабыць з сыночкам.

Брала Максімку на рукі. Прыціскала яго галоўку да сябе. Ужо гэта прыносіла яму шмат радасці. А да ўсяго абавязкова гучала якая-небудзь песня.

Спявае мама, а Максімка — сама ўвага:

*Сарока-варона*
*Кашку варіла,*
*Дзетык карміла:*
*Етыму дывала,*
*Етыму дывала,*
*Етыму дывала,*
*Етыму дывала...*

Пры гэтым мама перабірала на яго ручцы пальчыкі. Не чапала толькі мезенца. Калі даходзіла чарга да яго, яна працягвала:

*А ты, пальчык,*
*Малінькій мальчык,*
*Схадзі пу вадзіцу.*
*Ў сьцюдзёну крыніцу...*
*Тут...*

Мама бралася за Максімаву ручку.
Спачатку за локаць.
Потым за плячо.
Пры гэтым прыгаворвала:

*Тут мох,*
*Тут балота,*
*Тут пень.*
*Тут калода,*
*Тут крыніца,*
*Тут сьцюдзёная вадзіца!*

Пасля чаго пачынала казытаць Максімку пад пахай. Ад задавальнення хлопчык заходзіўся смехам.

— Яшчэ паспявай, — прасіў Максімка.

Куды болей ён запомніў маміных песень, калі падрос. Асабліва падабаліся яму «Сіўкаваронка, дылі-гойда!», «А было ў бабкі чатыры валы».

Дый як было не запомніць «чатырох валоў»?! Кожны з іх па-свойму адметны.

«Рябы папашыць на гряды».

«Чорны пакуець жорны».

«Буры памоніць куры».

А «лысы памыіць місы».

Песні Максімка запамінаў лёгка, бо меў добрую памяць. У тым ліку і музычную. Таму невыпадкова іграў на некалькіх музычных інструментах. Калі ж вырас, стаў пісьменнікам, дык вырашыў песні, якія ведала ягоная мама, запісаць.

Рабіў гэта звычайна, калі прыязджаў у родную вёску. Мама ахвотна згаджалася на ягоную просьбу што-небудзь праспяваць яму. Але яна так шмат ведала песень, што і за некалькі прыездаў ён не мог занатаваць іх усе. Калі ўжо жыў з сям'ёй у Мінску, запрашаў маму да сябе. Вярнуўшыся з работы, як і ў Малой Багацькаўцы, з задавальненнем слухаў у яе выкананні народныя песні.

Спачатку толькі сам запісваў іх. Потым падахвоціў і кампазітараў, якія таксама былі неабыякавымі да народнай песні. Дачка М. Гарэцкага Галіна Максімаўна ўспамінала: «У пачатку лютага 1925 года кампазітар М. Аладаў запісаў ад Ефрасінні Міхайлаўны мелодыі дваццаці народных песень. Выбраў найбольш цікавыя». У канцы ж 1925 года «сто дваццаць шэсць з праспяваных ёю песень паклаў на ноты А. Ягораў».

Ягораў нават прапанаваў Ефрасінні Міхайлаўне «паехаць у турнэ па Беларусі выконваць беларускія песні, але яна не захацела». Не ўхваліў гэты намер і сам М. Гарэцкі. Бадай, непакоіўся, што такая доўгая паездка скажацца на здароўі мамы.

Вынікам жа гэтых запісаў стаў зборнік «Народныя песні», што выйшаў у 1928 годзе. З партрэтам Ефрасінні Міхайлаўны. Трапіла ў гэты зборнік больш як трыста твораў. Сярод іх і 20 дзіцячых песень. Тых, якія так любіў слухаць у маленстве і сам М. Гарэцкі, і ягоныя браты, а таксама сястрычка Ганначка.

# Еднасць думак і адрознасць умоў

Што будзе ўяўляць сабой літаратура XXI стагоддзя? Выбар чытача абумовяць уласны густ і светапогляд, культурны стан грамадства, магістральны кірунак пісьменніцтва, дзяржаўная палітыка ў дачыненні да гэтых рэчаў. А яшчэ — разуменне таго, што адбываецца ў свеце апошнім часам. Гэта датычыць і чытачоў, і пісьменнікаў. Падчас XX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу ў Доме літаратара сабраліся за «круглым сталом» беларускія і расійскія творцы, каб разам абмеркаваць «выклікі сучаснасці», іншымі словамі — асаблівасці літаратурнага працэсу XXI стагоддзя.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**



Фота Кастуся Дробава

*Узнагарода Генадзю Іванову «За вялікі ўклад у літаратуру».*

Заўважная была еднасць думак беларускіх і расійскіх калег па дадзеным пытанні. Кожны з іх, зразумела, загадзя накідаў абрыс свайго кароткага выступлення ў гэтай, дарэчы, вельмі шчырай, нават сяброўскай гаворцы. Але тым ці іншым чынам амаль кожны пашыраў, удакладняў, ускладняў моманты, агучаныя ў прадмове старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца: патрабаванне кампетэнтнасці літаратуры ў адносінах да рэчаіснасці, адказнасці перад грамадствам, адкрытасці інтэрнацыянальных кантактаў. «Жыццё паказала: цяжка заставацца пісьменнікам, які апісвае лісткі на дрэве ці нават узнўляе вялікія гістарычныя падзеі. Сёння трэба валодаць сучаснымі ведамі, разумець міжнароднае становішча, эканоміку, сацыяльную палітыку. Тады пісьменнік можа даць зразумець чытачу, чаму яго краіна вартая павагі ў свеце, — нават прыводзячы нібы ўскосныя прыклады наконт таго, што беларускія цяжкагрузныя самазвалы займаюць 36 працэнтаў сусветнага рынку, або нагадваючы пра стан нашага грамадства на пачатку 1990-х у параўнанні з сённяшнім днём. Пісьменнік — вяшчальнік дабрага, крытык дрэннага і самакрытык. І новы «выклік»: мы павінны мацаваць сувязь з іншымі народамі, рабіць усё, каб быць бліжэй адзін да аднаго».

Вось першы аднадумца: Аляксандр Казінцаў, расійскі пісьменнік, публіцыст, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Наш современник». «У тым, што прачытана апошнім часам, відавочны ўпор на дакументальнасць. Мастацкі пачатак трансфармуецца ад плана ўмоўнага да рэальнага. Менавіта такія выбітныя творы апошняга часу ў Расіі: «Метафізіка сталіцы» Рустама Рахматуліна, «Леў Талстой: Выгнанне з Раю» Паўла Басінскага. Гэта non-fiction, публіцыстыка ў вобразах. У «звычайнай» літаратуры яна таксама ёсць: у аўтабіяграфічным пачатку, напрыклад. Асабісты досвед надае твору жывасць і перакануўчасць».

> Мікалай Дарашэнка: «Мы жывём у асяродку, дзе тое, што не растыражавана, не перамагае, не даходзіць да таго, для каго прызначана».

Расійскі пісьменнік з беларускімі каранямі Валерый Казакоў: «Адзін з пазітыўных рухаў — узаемапрыцягненне літаратур: рускай і беларускай, рускай і сербскай, рускай і закаўказкай і г. д.» Атрымліваецца, Расія — свайго кшталту буфер? Відаць, так: мова руская — глабальна распаўсюджаная, таму здольная глабальна рэпрэзентаваць сродкамі перакладу нацыянальныя літаратуры, сінтэзуючы найлепшае». З іншага боку, як заўважыў Алесь Карлюкевіч, «руская мова заўсёды запатрабаваная на нашай прасторы. Ёсць дзве ініцыятывы, якія сёння навідавоку і будуць мець значны плён: беларускі нумар часопіса «Наш современник» і расійскі «Нёмана».

Іван Саверчанка рысай найноўшай літаратуры адзначыў філасафізм — пераважна сацыяльнага характару: пісьменнікі імкнуцца асэнсоўваць найбольш складаныя з'явы ў сучаснай геапалітыцы. Шкада, што гэты тэзіс не атрымаў працягу: «Літаратура і філасофія» — адзін з найбольш прыцягальных прыярытэтаў у сучаснай культурнай прасторы.

Адметным матывам гаворкі стала роля Слова, яго існасць і патэнцыял. Старэйшы пісьменнік Алесь Савіцкі, ветэран Вялікай Айчыннай, прыгадаў словы Прэзідэнта на сустрэчы з беларускімі літаратарамі: згубіць Кнігу значыць згубіць Краіну. «Тое, што мы ў XXI стагоддзі так спасцiглі значнасць Слова, выклікае веру ў яго вечнасць, вечнасць Кнігі: спачатку было Слова — і будзе ў канцы», інакш кажучы — заўсёды. Нездарма, падкрэсліў расійскі паэт, публіцыст, перакладчык Мікалай Пераяслаў, «літаратура ўплывае і на палітыку, яна адказная за палітычныя катаклізмы, за ўсё, што адбываецца ў свеце. Калі мы прыгадваем, што ў пачатку было Слова, то павінны памятаць, што гэта — праграма, якая ўвесь час становіцца жыццём. Як крытык я падыходжу да літаратуры з меркай: яна вядзе чытача да Выратавання або да пагібелі. На жаль, рынак гэта не ўлічвае, усё вырашае прынцып: прадаецца або не. Не прадаюцца паэзія, філасофскія тэксты. Лягчэй пісаць пра мінулае: як было дрэнна або як было добра. Сучасная літаратура (расійская, у асноўнай яе масе. — **Т. С.**) не прапануе, куды ісці, не стварае рэвалюцыйных раманаў».

Яшчэ адно назіранне М. Пераяслава: «Нацыянальныя літаратуры ў час пасля перабудовы сталі самастойна, арыгінальна развівацца. У рускай больш заўважны еўрапейскі ўплыў. Часта гэта вельмі далёка ад жыцця, не кранае душу. Але ж літаратура павінна абуджаць яе».

Праблемы расійскай літаратуры і стан беларускай часта агульныя. І там, і там існуе праблема «несумяшчальнасці дыскурсаў»: «постмадэрністы» і «рэалісты» не разумеюць адзін аднаго. Алесь Бадак: «Кніга будзе жыць, у якім бы фармаце яе ні чыталі. Іншая справа, што чытае, напрыклад, моладзь. У XX стагоддзі яна чытала Бондарава, Распуціна. Што яна чытае цяпер — усе ведаюць...» Так, у большасці — тое, што навукоўцы называюць шызааналізам: хаатычнае ўзнаўленне такога ж светаўспрымання аўтара і яго непасрэднага атачэння — «дыскурс», які цешыць наяўных і выпестоўвае патэнцыяльных «аднадумцаў». Асноўны «герой» такой літаратуры — Зло, усебакова рэпрэзентаванае. «Але ж у рэчаіснасці гэта не так, не такое песімістычнае наша сёння», — зазначыў Валерый Казакоў.

Агульную праблему існавання культуры пад уладай мас-медыя драматычна акрэсліў расійскі пісьменнік Мікалай Дарашэнка: «Мы жывём у асяродку, дзе тое, што не растыражавана, не перамагае, не даходзіць да таго, для каго прызначана. Ствараецца штучная культурная прастора, якая спараджае чалавека, не здольнага да ўзнаўлення». Адна і тая ж праблема стаіць перад кнігавыдаўцамі абедзвюх краін: «Электронная кніга, нібы жук-караед, знішчае «папяровыя» тыражы. Таму трэба самім выдаўцам, побач з папяровымі, легальна выпускаць электронныя версіі. Ствараць свайго кшталту электронныя пляцоўкі, адмысловыя сацыяльныя сеткі, прыцягваць да ўдзелу ў іх пісьменнікаў», — так мяркуе галоўны рэдактар расійскага кнігавыдавецтва «Вече» Сяргей Дзмітрыеў.

Генадзь Іваноў, першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі, прызнаўся, што перад сустрэчай яму захацелася прачытаць у арыгінале беларускія вершы — і прачытаў «каля сотні». «У Купалы ёсць верш «Ворагам Беларушчыны». Ад яго адчуў цеплыню, роднаснасць думкі («...Жыў беларус — і будзе жыць!»). Ад імя нашага Саюза хачу сказаць, што мы бясконца паважаем беларускі народ, беларускую літаратуру, беларускага Прэзідэнта. Для нас гэта нібы надзея на свята. У Расіі навідавоку страта чалавечнасці. Жорсткасць — нават надрыўная. У Беларусі гэтую мяжу не перайшлі — і дай Бог, каб не перайшлі».

# Ад Караткевіча да сучаснікаў

Падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу быў прэзентаваны беларускі асобнік серыі «Са стагоддзя ў стагоддзе. Славянская паэзія XX — XXI стст.» (укладальнікі А. Кажадуб, Л. Турбіна). Мэта серыі — адлюстраванне скарбаў нацыянальнай паэзіі славянскіх народаў на працягу апошніх 100 гадоў у двухмоўным варыянце (арыгінал і рускі пераклад). За 15 гадоў выдадзеныя таксама тамы чэшскай, македонскай, украінскай, балгарскай, славацкай, славенскай, харвацкай, польскай паэзіі.

**Лея ХАШЫМБА**

Па агульным прызнанні, беларускі том стаў адной з найлепшых кніг серыі: ён заслужыў званне Кнігі года на Міжнароднай маскоўскай кніжнай выстаўцы-кірмашы і вылучаны на Прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва. Дзе б яго ні прэзентавалі, сведчаць укладальнікі, паўсюль ён выклікаў цікаўнасць і розгалас — у Польшчы, Балгарыі, Францыі, Канадзе... Любоў Турбіна, супрацоўнік Інстытута сусветнай літаратуры РАН, зазначыла: «Вырашылі адкрыць анталогію вершам Уладзіміра Караткевіча. Адразу тым самым зададзеная вышыня ўзроўню выдання. Завяршаецца кніга вершам Паўла Саковіча «Не прадавайце хаты вашай...» Гэта вызначальныя тэмы беларускай культуры».

Падаецца значным, што перакладчыкі на рускую мову — тыя, хто жыве ці жыў на Беларусі: Браніслаў Спрынчан, Навум Кіслік, Любоў Турбіна, Генадзь Кісялёў, Валерый Ліпневіч... Яны асабіста ведаюць ці ведалі ўключаных у анталогію аўтараў, працавалі не з падрадкоўнікамі. Магчыма, менавіта ў гэтым прычына захавання высокага лірычнага напалу беларускага паэтычнага слова.

Паэт Навум Гальпяровіч падчас свайго выступлення засведчыў: «Для мяне вялікі гонар быць у гэтай анталогіі. Тое, што беларуская літаратура ўвасабляецца на рускай мове, — не толькі прызнанне, але і далейшы шлях, таму што па-руску чытаюць шмат дзе ў свеце. Я не думаю, што роднай мове пагражае крызіс: беларускія паэты пішуць так, каб мовай хацелася карыстацца».

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі



Кніжны свет

15 лютага 2013 г.

Аляксандр ПРАХАНАЎ:

# «Дзяржава — свайго кшталту рэлігія...»

Творчая сустрэча вядомага пісьменніка, публіцыста, грамадскага дзеяча, галоўнага рэдактара газеты «Завтра» стала амаль самай шматлюднай падзеяй Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Навукоўцы і журналісты, пенсіянеры і студэнты, мужчыны і жанчыны — усе адчулі аўру прыцягнення гэтага чалавека. Яе ўплыў я не бяруся вызначыць. Лепш без каментарыяў узнавіць выступленне, па магчымасці захаваўшы яго своеасаблівы рытм, адметны пафас.



«...Канечне, мне б хацелася спавядацца, патлумачыць вам і сабе, навошта я з'явіўся на гэты свет, навошта мне за 75 гадоў дадзена было столькі ўсяго ўбачыць і адчуць. Я бачыў нараджэнне дзіцяці, нараджэнне Жыцця — і ўзрыў гары ў Сяміпалацінску, забойства гары. Бачыў з вышыні другі і трэці чарнобыльскія энергаблокі пасля катастрофы... Народжаны ў СССР, перажыў яго крушэнне, блукаў у 1991-м па маскоўскіх вуліцах іназіраў бясчынства натоўпу. Прайшоўшы амаль усе «гарачыя кропкі», нарэшце пабачыў танкі ў цэнтры Масквы... Навошта я пражыў гэта жыццё?..

Мая творчасць распадаецца на два перыяды: савецкі, калі я бачыў, як ствараецца цывілізацыя, — і поўнае крушэнне ўсяго гэтага, калі героі сталі антыгероямі. Дзе быў Тварэц, апынуўся Купец. Рускі рай ператварыўся ў рускае пекла. Гэта — другая пара маёй творчасці.

І яна абяцае скончыцца. Пачынае днець. Настае час тых, хто, падобна да мяне, захавалі святло душы.

Калі я прайшоў праз усё жыццё, я намацаў тэорыю рускіх царстваў, рускіх імперый, якія падаюць у чорную дзірку на піку росквіту, а потым паўстаюць з попелу. Кіеўскае, Маскоўскае царствы, Раманаўскае трохсотгадовае царства, Савецкі Саюз... Скрозь пакуты знішчэння культуры ў 1990-я Расія ізноў прарываецца. Тэорыя ўваскрашэння стала для мяне формай рэлігіі. Разам з ёй ёсць упэўненасць, што мы пройдзем гэтае вузкае месца гісторыі і станем лепшымі, чым былі. Пра гэта я напісаў усе свае кнігі. Я пішу, па сутнасці, усё жыццё адну кнігу: бесперапынны рух людзей, падзей. Калі ў мяне атрымліваецца ўбачыць у гэтым метафару — я перакладаю яе ў раман. Калі ты не напісаў штосьці — гэта забыццё.

Калі мне было гадоў 25 — 30, я думаў, што ўсё ведаю. Я быў малады, дужы, у мяне нарадзіліся дзеці, я быў шчаслівым чалавекам. Потым прыйшла трывога, што, не дай Бог, ад мяне адвернецца мой анёл і вызначыцца мая нішчымнасць. Наканаванне чалавека — вандраванне дзеля набыцця досведу. На Суд чалавек павінен у далонях прынесці і паказаць тыя крохі досведу, што ён назбіраў на зямлі. Калі яны нічога не вартыя, Бог садзьме іх з далоні... Калі знойдзецца патрэбнае і важкае зерне — Бог мяне не адпрэчыць. Я жыву адчуваннем страху: раптам я не знайду гэтае зерне, не пазнаю, памылюся...

Ёсць тысяча падстаў здацца і знікнуць. Сіла ў тым, каб не паддавацца энтрапіі. Гэта форма выжывання для ўсіх. Унутранае лунанне — залог індывідуальнай, калектыўнай і нацыянальнай перамогі».

**Запісала
Таццяна СТУДЗЕНКА**

*Час чытаць*



Часовы паверраны ў справах Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь спадарыня **Дагмар ДЗІДЭНКА НАВАГРАДСКА:**

## «Булгакава чытала ў арыгінале»

Праектам, ва ўрачыстым адкрыцці якога ўдзельнічала спадарыня Дагмар Дзідэнка Наваградска, стала Міжнародная выстаўка дзіцячай творчасці «Лідзіцэ» ў галерэі «Універсітэт культуры» ў Палацы Рэспублікі.

**— Спадарыня Дагмар, ці шмат вы ведалі пра Беларусь, перш чым занялі гэту пасаду?**

— Мне давялося адкрыць вашу краіну ў якасці турыста. Наведала цудоўныя гарады Полацк, Гомель. Вельмі спадабаліся. Першае ўражанне было добрае: гэта краіна, у якой жыве культурны народ. І мне вельмі хацелася б, каб і надалей развівалася супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Чэхіяй. Асабліва важнымі лічу культурныя стасункі. Будзем працягваць выставачныя праекты — пастараемся, каб іх пабачылі і маленькія гарады. Выстаўка дзіцячай творчасці, у якой узялі ўдзел дзеці з розных краін: Літвы, Кітая, Славакіі, Сінгапура, Тайланда, Сейшэлаў, Інданезіі і іншых — паедзе ў Брэст. Працягвае вандроўку па беларускіх гарадах і выстаўка, героем якой з'яўляецца чэшскі краток з папулярнага мультфільма.

**— Па адукацыі вы...**

— Юрыст. А ў вольны час вельмі люблю чытаць. Сачу за сучаснай чэшскай літаратурай. На жаль, часу няшмат — дзіця малое, — але стараюся кожны дзень чытаць хоць па некалькі старонак.

**— Вашы любімыя рускія аўтары?**

— З класічнай літаратуры — Пушкін. Скарае любоў, з якой напісаны яго творы.

**— Чыталі яго ў перакладзе?**

— Так. У арыгінале чытала толькі раман Булгакава «Майстар і Маргарыта».

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

*За падзеяй*

# Цуды здараюцца

Навукоўцы шукаюць на кніжнай выстаўцы спецыялізаваныя выданні, бібліяфілы — рэдкія фаліянты, моднікі ад літаратуры — самыя свежыя і папулярныя навінкі, а дзеці прагнуць казак, прыгод і цудаў. Жаданні мусяць спраўджвацца. І таму дзіцячая бібліятэка № 8 г. Мінска і РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» падказалі маленькім вучням сталічнай школы № 21 адрас сапраўднай казкі.

**Аліса НЕСЦЕРАВА**

На другім паверсе Нацыянальнага выставачнага цэнтра «БелЭкспа» адбылася прэзентацыя кнігі «Казачныя падарожжы з прыгодамі» маладой, але ўжо вядомай і папулярнай дзіцячай пісьменніцы Наталлі Ігнаценкі. Хлопчыкі і дзяўчынкі сабраліся тут, каб пачуць дзівосныя гісторыі, убачыць іх на свае вочы і паверыць у цуд. А як жа не паверыць, калі сваю казку пра двух братоў, якія нечакана для сябе здзейснілі поўнае прыгод падарожжа, пісьменніца не толькі прачытала, але і прадэманстравала. Цягам аповеду адчыняліся чароўныя скрыначкі, і перад гледачамі паўставалі церам Дзеда Мароза і палац Снежнай Каралевы, ажывалі жывёлы ды птушкі і спяваў над усім медны званочак.

Канечне, дабро перамагло зло, браты, трымаючыся разам, змаглі пераадолець усе перашкоды, а Снягурка ўручыла ім падарункі. Маленькія слухачы шчыра радаваліся такому справядліваму фіналу.

Але на гэтым свята не скончылася. Наталля Ігнаценка задавала пытанні сваім гасцям, і самыя ўважлівыя атрымлівалі чароўныя сняжынкі. Наогул, ні адно дзіця не сышло з імпрэзы з пустымі рукамі. Самым каштоўным падарункам сталі кнігі з аўтографам аўтаркі, іх атрымаў кожны ўдзельнік сустрэчы. А забяспечыў такі прыемны сюрпрыз гісторык, публіцыст Анатоль Статкевіч-Чабаганаў.

Намеснік дырэктара РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» Ала Корбут распавяла, што выдадзеная ў 2010 годзе кніга «Казачныя падарожжы з прыгодамі» разышлася вельмі хутка. І стала зразумела, што трэба рабіць яшчэ адну. Выдаваць кнігу вырашылі ў цвёрдай вокладцы і па-руску, каб пачытаць пра зімовыя прыгоды і іншыя цуды маглі дзеткі не толькі з Беларусі.

Дарослыя гледачы захапіліся казачнай гісторыяй не менш, чым дзеці. Госць сустрэчы пісьменнік-ветэран Алесь Савіцкі прызнаўся, што быў бы вельмі шчаслівы, каб у свае дзіцячыя гады мог удзельнічаць у падобных мерапрыемствах. Ад усёй душы ён падзякаваў аўтарцы за сапраўднае чараўніцтва. У адказ Наталля Ігнаценка разам са сваімі маленькімі сябрамі і іх настаўніцай Ірынай Велічневіч віталі Алеся Ануфрыевіча, бо без Вялікай Перамогі, якую ён набліжаў, былі б немагчымыя такія светлыя сустрэчы з казкай.



*Фота Кастуся Дробава*

# Літаратурнае жыццё сучаснай Расіі

На расійскай пляцоўцы Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу адбылося шмат падзей, якія прыцягнулі ўвагу наведвальнікаў. Але дзве сустрэчы былі сапраўды ўнікальныя: абмінуўшы іх, немагчыма даведацца «з першых рук» пра тое, што адбываецца ў пісьменніцкім асяродку Расіі, як адчувае сябе пісьменнік-грамадзянін, што звязвае яго з чытачом. Пра ўсё гэта вялася шчырая гутарка падчас дыскусій «Літаратурныя прэміі і кніжныя конкурсы ў Расіі», «Роля літаратурных часопісаў у сучасным літаратурным працэсе».

## ПУЛЬС НАРОДА

Увогуле, літаратурнае жыццё ў Расіі цалкам аўтаномнае адносна дзяржаўнай палітыкі. Інакш кажучы, дзяржава — сама па сабе, літаратура — сама па сабе. Усё, маўляў, вырашае рынак: здолее ці не захавацца стыхія, народжаная калісьці пушкінска-лермантаўскім «залатым векам». Як адбываецца барацьба за сябе, за свайго чытача, за кнігу і за дзяржаву — пра гэта дзяліліся досведам расійскія пісьменнікі.

Намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Наш современник» **Аляксандр Казінцаў:** «Па вялікім рахунку, уся руская літаратура прайшла праз часопісы. Яшчэ Пушкін друкаваў там «Капітанскую дачку», Лермантаў — «Героя нашага часу». Менавіта часопісы зрабілі галоўныя творы рускай літаратуры вялікімі, таму што не толькі друкавалі іх, але і прэзентавалі, аналізавалі. Калі прадумана і паслядоўна пададзеныя твор, крытычныя артыкулы, біяграфія пісьменніка, размовы з ім, то ўрэшце ствараецца моцнае і цэласнае ўражанне.



Часопіс задае «планку». Там немагчыма надрукавацца графаману або маральна хвораму чалавеку. І наадварот, таленавітага чалавека ён адразу прымае. Гэта як сям'я: свой па духу аўтар становіцца родным. Калісьці так атрымалася з маладым правінцыялам Валянцінам Распуціным. Калі ён прыйшоў у «Наш современник» і не заспеў на месцы галоўнага рэдактара, збіраўся сысці не чакаючы. Але сакратарка напаіла гарбатай, распытала: хто, з чым, адкуль, дзе спыніўся... Вярнуўшыся, рэдактар пачытаў рукапіс і адразу патэлефанаваў наведвальніку. Так Валянцін Распуцін стаў пастаянным аўтарам часопіса, а следам за ім — шэраг іншых «вяскоўшчыкаў», легендарная плынь рускай літаратуры XX стагоддзя. Часопіс стварае пісьменніка і, урэшце, — літаратуру.

У якім стане «тоўстыя часопісы» цяпер? У сумным. Кажуць, гэта таму, што ў чытача-інтэлігента няма грошай. Сапраўды, але гэта не адзіная прычына. Чытач, здаецца, не жадае эталоннасці ўвогуле: ён супраць, каб нехта яму дыктаваў, што чытаць. Ён хоча сам раптам знайсці самародкавую жылу і ганарыцца, што ён зрабіў гэта без падказкі ментараў і крытыкаў.

Прычына сумнага становішча літаратурных часопісаў таксама — інтэрнэтверсіі. Без іх немагчыма, і лепш ужо рабіць іх самім, чым чакаць «піратаў». Але ж гэта іншы маштаб! «Інтэрнэтная» думка — кароткая, куртатая. Кліпавае, «клікавае» мысленне — нетрывалае: прачытаў і забыўся. Сур'ёзны, трывалы сэнс узнікае падчас напружанай працы думкі. Да таго ж думка нараджаецца ў кантэксце, «у сувязі з ...»: усе публікацыі, усе жанры ў часопісе дапаўняюць адно аднаго, каб данесці да чытача тыя ці іншыя сэнсы. Тады яны каштоўныя.

Чаму ўсё ж такі не зніклі «тоўстыя часопісы», нягледзячы на свае мізэрныя наклады? Сапраўды, у 1990-я гады было цяжка. «Новый мир», «Октябрь», «Знамя» падтрымаў Сорас. «Наш современник», вядома, ім не спансіраваўся, ды мы б і не пайшлі на гэта. Што атрымалася? Нашы калегі выжылі, але страцілі адчуванне пульсу чытача. Цяпер іх тыражы разам — роўныя накладу аднаго «Нашего современника». Цалкам залежныя ад аўдыторыі, мы тады, як ніколі, наблізіліся да яе, прыслухоўваючыся, чым яна дыхае, якія яе патрэбы».



**Генадзь Іваноў,** першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі: «У літаратуры, як усюды цяпер, — час небуйных пастацей. Суадносныя са сваімі помнікамі-веліканамі тытаны мінулага стагоддзя сышлі. Таму ў палітычным плане часопісы, як і асобы, нічога не вырашаюць. Навошта тады яны існуюць? Дзеля таго, каб выхоўваць адпаведную культуру: інтэлектуальную, палітычную, патрыятычную. Іх слова — як вада, якая точыць граніт: рана ці позна яно праб'ецца. Гэта праца на заўтрашні дзень».

## АТРЫМАЦЬ І НЕ ЗГУБІЦЬ

Што да літаратурных прэмій у Расіі, яны фінансуюцца па трох каналах. Перадусім, федэральныя ўзнагароды: Дзяржаўная, Патрыяршая, «Нацыянальны бестселер», «Вялікая кніга Расіі», «Букер», «Вялікая літаратурная прэмія». Існуюць рэгіянальныя прэміі, якія можа атрымаць і сталічны пісьменнік: белгарадская прэмія «Прохараўскае поле», піцерская — імя Аляксанда Неўскага, ульянаўская — імя І. Ганчарова. Самыя «гучныя» і важкія ў матэрыяльным сэнсе — г. зв. ліберальныя прэміі: прэмія Чубайса, Беразоўскага і да т. п. Апошнія пракаменціраваў **Мікалай Дарашэнка**,



галоўны рэдактар сайта «Расійскі пісьменнік»: «Дармавы сыр — толькі ў пастцы. Алігархі ўзнагароджваюць «сваіх», а гэта ўсё адно што прадаць душу д'яблу».

**Мікалай Пераяслаў,** паэт, публіцыст, перакладчык, дадае: «Прэміі — рычаг уздзеяння на літаратуру і культуру. Яны — акцэнты. На жаль, акцэнты часцей падаюць на антыкультурныя моманты». Да таго ж «антыкультурныя акцэнты» ўзмоцненыя тым, што лаўрэат ліберальнай прэміі пачынае надзвычай шырока рэкламавацца, у той час як прадстаўнікі дзяржаўных і рэгіянальных (дарэчы, досыць сціплых) узнагарод атрымліваюць іх у пустых ці паўпустых залах.

Цікава, што размова пра літаратурныя конкурсы і прэміі вымусіла закрануць пытанні і гранічна прыземленага, і высокага філасофскага сэнсу. Генадзь Іваноў: «Пісьменнік нараджаецца на свет, каб пісаць, а не каб, прыкладам, стаяць у станка. Ён, можа, там і стане, але калі ён не здзейсніць Боскае заданне, то, хутчэй за ўсё, сап'ецца. Літаратурныя прэміі існуюць, паміж іншым, і дзеля папярэджвання такіх рэчаў». У той жа час, упэўнены Аляксандр Казінцаў, «прэмія можа быць і безграшовай, але, калі яна выклікае моцны рэзананс, шчаслівы той, хто яе атрымае». Чаму ж не «гучаць» на ўсю моц дзяржаўныя і рэгіянальныя прэміі



Расіі? Таму, тлумачыць намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Наш современник», што ў Расіі не існуе грамадскасці ў літаральным сэнсе (агульнасці грамады). Менавіта грамадскасць спараджае і сцвярджае каштоўнасці, да якіх пасуе ці не пасуе творчасць таго ці іншага пісьменніка. Няма грамадскасці — няма рэзанансу адпаведнай літаратуры. Няма рэзанансу — няма сувязі з шырокім чытачом, а толькі «кропкавыя» кантакты. «Сапраўднай сувязі-счаплення з народам, для якога працуе пісьменнік, не адбываецца».

Але не ўсё так сумна. Памятаеце працытаваны выраз пра ваду, якая точыць граніт? Пра слова, якое прабівае інерцыю «ліберальнага грамадства»? Мікалай Пераяслаў: «Наша справа — рабіць тое, што мы ўмеем. Пісаць, выдаваць часопісы. Плён ад гэтага бачны хаця б па тым, што ўрад Расіі ўжо не цураецца патрыятычнай рыторыкі».

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Наш кодэкс гонару



Кожнага айчыннага пісьменніка, які працуе ў рэчышчы гістарычнай прозы, непазбежна параўноўваць з Уладзімірам Караткевічам. Для Беларусі гэта нават не заканамернасць, а аксіёма. Не абмінула такая доля і Людмілу Рублеўскую, якая прэзентавала ў «Кніжным салоне» свой новы раман — гістарычны, як вы здагадаліся.

«Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега» — так называецца першая частка ўжо напісанай трылогіі. Раман быў выдадзены ў Выдавецкім доме «Звязда» ў серыі «Святло мінуўшчыны». Характарызуецца ён як прыгодніцкі і фантасмагарычны, аднак на гэты конт падчас прэзентацыі разгарнулася дыскусія. Тут самы час зазначыць, што імпрэза праходзіла ў форме «круглага стала», за якім сабраліся Адам Мальдзіс, Пятро Васючэнка, Дзяніс Марціновіч, Віктар Шніп, Ала Корбут, Ганна Запартыка, Аксана Бязлепкіна, уласна аўтар ды іншыя. Агульнымі высілкамі прыйшлі да высновы, што раман далёкі ад фантасмагорыі, бо пабудаваны ён не на снах, фантазіях і падобным, а на шэрагу гістарычных дакументаў, і фон гістарычны створаны праўдападобна.

Пры гэтым у рамане ёсць рэчы, якія здаюцца неверагоднымі. Прыкладам, танк. Драўляны, на паравым рухавіку танк, пабудаваны па малюнках Леанарда да Вінчы, раз'язджае па Слуцку абсалютна спакойна (спакойны танк — не случанае). І гэта — у 1759 годзе! Але ў тым і справа, што неверагодным яно толькі здаецца. Насамрэч у тыя часы сапраўды існавалі такія машыны. Праўда, эксперыменты з імі сталіся няўдалымі і хутка спыніліся, але ж — былі.

Зразумела, што падчас гутаркі вельмі часта згадваўся Уладзімір Караткевіч з яго любоўю да гістарычных таямніц, якімі таксама насычаны раман Людмілы Рублеўскай. Аднак нават пры некаторым падабенстве падыходу гэтых аўтараў да гістарычнай тэматыкі Адам Мальдзіс рэзюмаваў: «Рублеўская не Караткевіч».

Асабліва цікавы — і карысны — раман будзе падлеткам. Бо ў ім, на думку крытыкаў, ёсць тое, што выхоўвае розум і сэрца — свое асаблівы кодэкс гонару: адраджэнскія матывы, любоў да Радзімы і мовы, чалавечая годнасць.

Кнізе прадказваюць вялікую тэлевізійную будучыню. Падобна да бессмяротных гісторый пра трох мушкецёраў і гардэмарынаў, трылогія пра «шкаляра і шпега» мае авантурны сюжэт, каларытныя вобразы, асаблівы дух — што разам стварае глебу для добрай экранізацыі. «Беларусьфільму» варта было б звярнуць увагу на вобраз Пранціша Вырвіча.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Іранічная дыверсія

Ён паказвае геніяў ХХ ст. у выглядзе яек, упісвае будынак Нацыянальнай бібліятэкі ў панараму старажытнага Мінска, выдае набор «нецэнзурных» паштовак. Яму можна ўсё, бо ён — чалавек-брэнд, адна з самых яркіх асоб беларускай сучаснай мастацкай прасторы. Уладзімір Цэслер.

**Дзіяна КАРОЛЬ**



«Практыка рыначнага рэалізму» — пад такой назвай расчыніла свае дзверы для наведвальнікаў выстаўка твораў Уладзіміра Цэслера ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Аўтар не дае дакладнага адказу на адвечнае пытанне наконт сумяшчальнасці творчасці і магчымасці зарабляць грошы. Толькі робіць акцэнт на тым, што камерцыйны складнік у мастацтве — паказчык таго, наколькі грамадству патрэбны той ці іншы прадмет. Задача мастакоў — змяніць сутнасць чалавека, прымусіць яго звярнуць увагу на самога сябе, дапамагчы развівацца як асобе.

Экспазіцыя, якая заняла ўсе залы музея, прадстаўляе жывапіс, арт-аб'екты і іншыя праявы крэатыўнасці мастака, схільнага да парадаксаў мыслення. Нездарма, па словах дырэктара музея, мастацтвазнаўцы Наталлі Шаранговіч, Цэслер — чалавек, які зусім па-іншаму бачыць Беларусь, наогул па-іншаму ўспрымае рэальнасць. І гэта сапраўды так. Аўтар хуліганскіх рэкламных плакатаў, якія знаходзяцца ў фондах вядомых сусветных музеяў, стваральнік незабыўных кітчавых прадметаў ужытку і арт-аб'ектаў, вельмі лёгка і прыгожа іранізуе з розных жыццёвых сітуацый, аднак не дае пэўнага адказу на пастаўленыя пытанні, тым самым нагадваючы гледачам, што ў жыцці няма чыста чорнага і чыста белага колераў.




— Мы адначасова гадаваліся ў тэатральна-мастацкім інстытуце, і ўжо тады вакол Валодзі Цэслера быў такі натоўп, як сёння, — адзначыў намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца. — На гэтай выстаўцы я бачу вельмі пазітыўнае мастацтва. Шмат каму даецца талент, але мала каму — такі, як у Валодзі, талент іроніі і самаіроніі. Гэта тое, што ратуе ад шызафрэніі. Шчыра радуюся, што ёсць такі крэатыў, і нават зайздрошчу, бо я так не ўмею.

На выстаўцы «Практыка рыначнага рэалізму» можна пабачыць праграмныя праекты мастака (частка створана ў суаўтарстве). Напрыклад, «Праект стагоддзя: Дванаццаць з ХХ» (у суаўтарстве з Сяргеем Войчанкам, 1955 — 2004) — знакамітыя яйкі, прысвечаныя такім геніям мінулага ХХ стагоддзя, як Далі, Малевіч, Бродскі і інш. У сталіцы яны выстаўляюцца вельмі рэдка, на сённяшні дзень іх, як і раней, 12 — аўтар не спяшаецца развітвацца з арт-аб'ектамі нават за вялікія грошы. Таксама тут прадстаўлены плакаты, серыя оп-арт-аб'ектаў «Вектарныя тэхналогіі», прасторавыя аб'екты, шэраг дызайн-канцэпцый, а таксама серыі «Галівудскія весялухі», «Школьны кабінет». Аднак лепшым творам выстаўкі быў адзінадушна прызнаны «Сын Яша. 2006 год» —хлапчук, які сядзеў на пастаменце і гуляў на прыстаўцы.

— Гэта выстаўка — не вынік, тут амаль няма новых работ, але ўсе яны вельмі разнастайныя, сабраныя ў адным месцы, таму і выглядаюць па-іншаму, — пракаменціраваў падзею сам Уладзімір Цэслер.

Ідэя выстаўкі з'явілася ў маі 2012 года падчас правядзення Дзён культуры Рэспублікі Беларусь у Санкт-Пецярбургу. Менавіта тады былы міністр культуры Беларусі Павел Латушка прапанаваў паказаць работы Цэслера, выстаўка была ўключана ў праграму Ночы музеяў. Задума мела поспех: за ноч экспазіцыю наведала каля тысячы чалавек, сацыяльныя сеткі стракацелі пазітыўнымі ўражаннямі і захопленымі заклікамі паглядзець на «сучаснае беларускае мастацтва». Стала зразумела: калі паказалі ў Санкт-Пецярбургу, трэба паказаць і ў Мінску. Улічваючы, што на адкрыццё завітала вялікая колькасць наведвальнікаў, ад звычайных прыхільнікаў творчасці мастака да вядомых асоб, а інтэрнэт-прастора, праўда ўжо беларуская, напоўнілася фотаздымкамі і парадамі пабачыць экспазіцыю на ўласныя вочы, можна з упэўненасцю сказаць: выстаўка атрымалася. Дый інакш і быць не магло, нездарма мастацтвазнаўца, дырэктар Мінскай мастацкай галерэі Л. Шчамялёва Таццяна Бембель прапанавала зрабіць выстаўку твораў Уладзіміра Цэслера пастаяннай экспазіцыяй музея.

# «Восеньская саната» для Ларысы Антосевай

Сапраўднае імя вядучай артысткі Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа — Ларыса Баярынцава. Антосева — творчы псеўданім, які з'явіўся, калі яна ў 1984 годзе прыехала ў Віцебск. Тады Валерый Мазынскі, галоўны рэжысёр тэатра імя Якуба Коласа, спытаў, як яе называлі ў дзяцінстве, і яна прыгадала словы аднавяскоўцаў: «Вунь Антосева дачка пайшла!» Так і засталася ў тэатральных праграмках Антосевай. А дэбютная роля Веры ў спектаклі «Радавыя» паводле п'есы яе аднакурсніка, знакамітага беларускага драматурга Аляксея Дударава, вызначыла акцёрскі лёс. Менавіта коласаўскі тэатр стаў другім домам.

**Святлана ДАШКЕВІЧ**

**— Чым жыве сёння артыстка Ларыса Антосева?**

— Ведаеце, у мяне вельмі лёгка на душы. Раніцай адчыняю балконныя дзверы і чую спевы птушак. Не верыце? А вы прыслухайцеся. У лютым ужо спяваюць птушкі. Яны адчуваюць набліжэнне вясны. А я жыву прадчуваннем новай работы. Хачу сказаць вялікі дзякуй тэатру за тое, што ўключылі ў рэпертуар «Восеньскую санату» Інгмара Бергмана. Мая даўняя мара — сыграць Шарлоту. Мне падаецца, што сёння я ў тым узросце, калі магу зразумець сваю гераіню. Ігар Баярынцаў, які зрабіў сцэнічную версію будучай пастаноўкі, хоча паставіць спектакль пра страту хрысціянскіх каштоўнасцей. Шарлота — піяністка, а ў яе душы няма гармоніі. Я тлумачу гэта так: душа чалавека расце не столькі ў шчасці, колькі ў горы. Калі чалавек атрымлівае толькі дабро, яму цяжка ацаніць шчасце.

**— Як склаўся ваш лёс у тэатры? Каго лічыце сваім анёлам-ахоўнікам?**

— Прафесія артыста — цудоўная, але вельмі залежная, драматычная. Я вельмі ўдзячная знакамітаму рэжысёру, выдатнаму педагогу Барысу Эрыну за яго ўменне працаваць з артыстамі, за тактоўныя і вельмі дакладныя заўвагі. Мы працавалі з ім над спектаклем «Хачу здымацца ў кіно» Н. Саймана. Невялічкая роля, затое якая школа!

Так атрымалася, што мае лепшыя работы ў тэатры — гэта мае прапановы. Роля Шарлоты фон Штайн у п'есе Пітэра Хакса «Размова ў доме Штайн пра гера фон Гётэ, якога ў гэты час проста няма» зроблена з рэжысёрам Валерыем Маслюком, потым ён пачаў працаваць над пастаноўкай «Шлюхі з Гарлема». Была задумка дапоўніць п'есу новымі персанажамі. Але, на жаль, не паспеў Валерый Васільевіч завяршыць гэту



работу. Мы самі рыхтавалі спектакль да прэм'ернага паказу. Назва мне снілася — «Кахаю, спадзяюся, чакаю». Антон Грышкевіч падарыў мне ролю Юліі ў спектаклі «Фрэкен Юлія» А. Стрындберга. Ігар Баярынцаў паставіў «Жанчыну ў пясках» Коба Абэ. У памяць пра Валерыя Маслюка зроблены спектакль «Фламенка» па яго апошняй п'есе, дзе я з задавальненнем сыграла галоўную ролю. А ў мінулым сезоне давялося папрацаваць у казцы «Шышок» А. Аляксандрава. Мая роля — Бабуля, якую дзеці хочуць забраць з роднай вёскі ў горад.

І ў казцы, і ў п'есе «Фламенка» «жывуць» дамавічкі. Думаю, гэта невыпадкова. Апошнім часам асабліва тонка пачала разумець, што сям'я, дом — гэта святое месца, дзе можна паплакаць, схавацца, адпачыць ад праблем. Раней я шмат займалася сабой, сваім тэатрам, на жаль, штосьці недадала сыну. А цяпер мне хочацца, каб і наш тэатр вярнуўся да лепшых традыцый сям'і. Гэта было ў нас. І ёсць сёння.

**— Ці хацелася б нешта змяніць у жыцці?**

— Я шчаслівая жанчына, маці, бабуля. Побач са мной муж, з якім можна пагаварыць на любыя тэмы, абмеркаваць прачытаную кнігу, а часам і паспрачацца. Люблю бываць у сям'і сына, там расце мой цудоўны ўнук Міколка. А што яшчэ трэба для сапраўднага шчасця?..

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Выдавецкі дом "Звязда"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Выдавецкі дом "Звязда".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Выдавецкі дом "Звязда".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў
Наклад — 2760
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 14.02.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 492
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686